ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ
№3 (24) сакавік 2013 год
Кошт свабодны

# У НАС ЁСЦЬ ПАПА!



## ЗВАРОТ АПОСТАЛЬСКАГА АДМІНІСТРАТАРА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ КСЯНДЗА-ПРЭЛАТА ФРАНЦІШКА КІСЯЛЯ Ў СУВЯЗІ З ВЫБАРАМ НОВАГА ПАНТЫФІКА ФРАНЦІШКА

***Праслаўлёныя*** 

*Бласлаўлёныя Апосталы пасля заснавання і ўстанаўлення Святога Рымскага Касцёла і мучаніцкай смерці Апосталаў Пятра і Паўла даручылі гэтае біскупскае служэнне Ліну. Пра гэтага Ліна Св. Павел узгадвае ў пасланні да Цімафея*

*Св. Ірыней. Супраць ерасяў. III,3,3*

**Глыбокапаважаныя святары, кансэкраваныя асобы, браты і сёстры!**

Вышэй зацытаваныя словы з'яўляюцца адным з нямногіх сведчанняў старажытнага хрысціянства пра першы канклаў. Іх аўтар, Святы Ірыней, напісаў гэтыя радкі ў II стагоддзі. Такім чынам, паводле сведчання традыцыі ў 67 годзе пачалася гэтая вялікая гісторыя выбару Біскупа Рыма, якая і ў нашыя часы не перастае хваляваць хрысціянаў і ўвесь свет.

Вядома, сёння пра канклаў мы чулі так шмат, што словы Святога Ірынея здаюцца нам вельмі сціплымі і ні ў якім разе не змаглі б задаволіць цікавасць нашага медыйнага свету. Але гэтыя некалькі сказаў, разбіваючы эйфарыйны шум сучасных газет і тэлеканалаў, вяртаюць нам істотную праўду: корні Хрысціянства знаходзяцца ў Апостальскай традыцыі, і гэтай Традыцыі нельга аддзяліць ад устанаўлення Біскупа Рыма.

*Працяг на стар. 2*



## ВЕЛІКОДНАЕ ПАСЛАННЕ СВЯТАРАМ, АСОБАМ КАНСЭКРАВАНЫМ І ВЕРНІКАМ ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ
### Апостальскага адміністратара ксяндза-прэлата Францішка Кісяля
### ВЯЛІКДЗЕНЬ 2013

*«Resurrexi et adhuc tecum sum»*
*(Missale Romanum)*
***(Я ўваскрос і цяпер заўжды з табою)***

**Браты і сёстры!**

Пачынаючы са старажытных часоў хрысціянства, Пасхальная Літургія захоўвае гэтыя словы: «Resurrexi et adhuc tecum sum» – "Я ўваскрос і цяпер заўжды з табою". І як жа лепш можна выказаць пасхальную радасць: Пан не толькі Ўваскрос, Ён заўсёды са мною. Са мною заўсёды ёсць мой Бог, жывы і несмяротны.

Кожны год, у дзень Змёртвыхпаўстання Пана, у нашых святынях мы чуем словы Евангелля пра тое, як вучні Езуса шукаюць цела свайго Настаўніка ў магіле і не могуць яго знайсці. Марыя Магдалена абвяшчае Апосталам Пятру і Яну трывожную вестку: *"Забралі Пана з магілы і не ведаем, куды паклалі Яго" (Ян 20,2).* Праз нейкі час Ян і Пётр, прыбегшы да магілы, таксама бачаць пустую труну і складзеныя хусты. Няма Пана, не ведаем, дзе Ён!

У гэтых словах і пачуццях мы пазнаём голас сённяшняга свету і шматлікіх нашых братоў і сясцёр: "Няма Бога, і мы не ведаем, дзе Ён". Людзі, паміж якіх мы жывём і працуем, у большасці шчырыя і добрыя, але пачуццё разгубленасці – дзе ёсць Бог, і дзе яго знайсці? – перапаўняе сёння не адно чалавечае сэрца. Марыя Магдалена кажа: "Забралі Пана, і не ведаем, дзе паклалі Яго". Часта здаецца сапраўды, што хтосьці ўкраў сёння ў людзей Бога і аднёс Яго за недасяжныя далі, каб яны не змаглі знайсці свайго Стваральніка, з якім можна прабываць і якому можна бязмежна давяраць.

*Працяг на стар. 3*



# Успамінаючы заступнікаў



**У Глыбокім ушанавалі памяць ксяндзоў, якія былі расстраляныя ў 1942 годзе. З нагоды 71-й гадавіны мучаніцкай смерці бласлаўлёных Мечыслава Багаткевіча, Станіслава Пыртка і Уладзіслава Мацьковяка парафіяне разам са святарамі ўспомнілі заступнікаў беларускай зямлі.**

Кажа ксёндз Мечыслаў Янчышын:

– Яны заслужылі не толькі месц імёны, пазначаныя на гэтым помніку і на абразах у касцёле, але перадусім у нашых сэрцах. У сэрцах усіх вернікаў, якія жывуць у Глыбокім, а таксама ў тых месцах, дзе яны працавалі, дзе іх ведалі, дзе яны служылі людзям і Богу.

Кожны год жыхары Глыбокага збіраюцца ва ўрочышчы Барок, каб ушанаваць памяць тых, хто загінуў ад рук фашыстаў. У гэтым месцы пахаваны 27 тысяч ахвяраў канцэнтрацыйнага лагера ваеннапалонных і Халакосту. Тут знаходзяцца таксама і магілы святароў, сярод якіх і бласлаўлёныя мучанікі Беразвечча.

*Беларускае Радыё Рацыя*

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі. Жадаем усім Вам шмат Божай ласкі і Божага блаславення!

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Эвеліна Клімантовіч** (г. Бярозаўка, Гродзенская вобл.), **Анастасія Орсік** (г. Бярозаўка, Гродзенская вобл.), **Марына Спургяш** (г. Бярозаўка, Гродзенская вобл.), **Стася Смірнова** (г. Бярозаўка, Гродзенская вобл.), **Леанід Грыбач** (г. Гомель), **Марыя Садоўская** (г. Глыбокае), **Вераніка Гінько** (г. Глыбокае), **Яніна Курдзека** (г. Глыбокае), **Тэрэза Саладкая** (в. Шунеўцы, Глыбоцкі р-н), **Станіслаў Вышадка і Сцепангіда Лупач** (в. Заварaты, Глыбоцкі р-н), **Ганна Працук** (в. Шунеўцы, Глыбоцкі р-н), **Бенісія Пачкоўская** (в. Гірстуны, Глыбоцкі р-н),

## Рэдакцыя дзякуе!

**Феліцыя Пачкоўская** (в. Гірстуны, Глыбоцкі р-н), **Марыя Пачкоўская** (в. Гірстуны, Глыбоцкі р-н), **Вераніка Абуховіч** (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), **Вольга Парневіч** (в. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **Антаніна Бабарыка** (в. Ваўкалата, Докшыцкі р-н), **Юзэфа Шарабайка** (в. Прыпернае, Глыбоцкі р-н), **Леанард Захарэвіч** (г. Барысаў, Мінская вобл.), **Таіса Муха** (г. Барысаў, Мінская вобл.), **Вольга Карповіч** (г. Барысаў, Мінская вобл.), **Марыя Матус** (г. Валожын, Мінская вобл.), **Соф'я Машара** (в. Зарэчная, Мёрскі р-н), **Антон Тупека** (в. Дзеркаўшчына, Глыбоцкі р-н), **Яніна Лоўкіс** (в. Цыбуты Пастаўскі р-н), **Вольга Гасянец** (г. Відзы, Браслаўскі р-н), **Віктар Лукша** (в. Лынтупы, Пастаўскі р-н), **Камілія Емельянава** (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), **малітоўная група "Маці ў малітве"** (в. Лынтупы, Пастаўскі р-н).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

**Дарагія сябры, дапамажыце нам несці Добрую Вестку!** Раскажыце сваім родным і знаёмым пра "Каталіцкі Веснік". Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў, ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.

Усім нашым ахвярадаўцам і аўтарам жадаем радаснага перажывання Свята Вялікадня. Няхай уваскросшы Езус заўсёды Вас блаславіць!

**Хрыстус уваскрос!**
**Сапраўды ўваскрос!**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# У НАС ЁСЦЬ ПАПА!

*Пачатак на стар. 1*

Паміж Святым Лінам, першым наступцам Святога Пятра, і Папам Францішкам на працягу амаль двух тысяч гадоў 263 асобы кіравалі Касцёлам. І адкідваючы ўсе спробы глядзець на гэтую традыцыю па-свецку, для нас, католікаў, яна застаецца справядлівай падставай вымаўляць у кожную нядзелю з любоўю і гонарам: Веру у Адзіны, Святы, Каталіцкі і Апостальскі Касцёл. Мы сапраўды ў Апостальскім Касцёле, устаноўленым нашам Панам Езусам Хрыстом, словы якога мы ў гэтыя дні не толькі ўзгадалі, але і моцна зразумелі: Ойча Святы, прашу Цябе, сцеражы іх моцай Свайго Імя, таго Імя, якое Ты мне даў, каб яны, як Мы, былі адно... (Ян 17,11). Для Хрыста не абыякавы лёс Свайго Касцёла, Ён кіруе ім, ачышчае яго, і аднаўляе.

**Браты і сёстры!**

Розныя людзі на свеце парознаму сачылі за выбарам новага Папы, па-рознаму каментавалі гэты факт, і па-рознаму ўбачылі гэтую гістарычную падзею. Думаю, што ў кожнага з нас надоўга застанецца ў памяці і белы дым з коміна Сікстынскай капліцы, і радасць тысячаў вернікаў на плошчы Святога Пятра ў Ватыкане, і ўрэшце, з'яўленне на балконе базылікі самога Папы.

Аднак што сапраўды ўбачылі мы ўвечары 13 сакавіка, што пачулі і чым былі ўзрушаныя альбо здзіўленыя? Мы глядзелі на гэтае здарэнне не вачыма цікавасці, але веры. Мы чакалі з'яўлення на балконе базылікі не лідара, які б змог задаволіць патрабаванні усіх аналітыкаў і журналістаў на свеце, але Пастыра, мы спадзяваліся, што Хрыстос нам дасць чалавека, здольнага не столькі вырашаць праблемы, але лячыць зламаныя чалавечыя сэрцы, мы прагнулі пачуць з ягоных вуснаў не словы вялікай мудрасці, але веры, суцяшэння і надзеі.

**Што мы ўбачылі?**

Сціплага чалавека ў белай сутане, які папрасіў вернікаў памаліцца за яго, і ў цішыні вялікай засяроджанасці нізка нахіліўся, каб прыняць гэты каштоўны дар – малітву Божага Народа за свайго Пастыра. Убачылі простую ўсмешку і пачулі запрашэнне да супольнага вандравання. З вуснаў абранага Пантыфіка не прагучала аніводнае слова асуджэння ў адрас сённяшняга свету, не было абяцанняў новых рэформаў, не пачулі мы ніякай праграмы на далейшыя гады. Тры істотныя словы сталіся першым пасланнем новага Папы Urbi et Orbi – Гораду і Свету: Любоў, Братэрства і Давер.

Кардынал Хорхэ Марыа Берголья паходзіць з Аргенціны. У першых каментарах пра ягоную асобу мы пачулі цікавыя рэчы: просты і сціплы стыль жыцця, блізкасць да ўбогіх і тых, хто мае патрэбу, даступнасць і ўменне абараніць слабых. Абранае ім новае імя – Францішак, – без сумневу, тлумачыць ягоную місію ў Касцёле, якую, бадай, і выказваюць гэтыя словы: Любоў, Братэрства і Давер.

**Браты і сёстры!**

На працягу доўгіх дзён мы з вамі выслухоўвалі доўгія каментары і разважанні пра праблемы, якія існуюць у нашым касцёле. Часта інфармацыя была недакладная альбо цалкам непраўдзівая. Розныя каментатары давалі прагнозы, кім павінен быць Папа і якія крокі ўчыніць. І вось адказ, што здзіўляе ўсіх і прымушае замоўкнуць самых мудрых. Шлях Касцёла – гэта дапамога бліжняму, давер да іншага чалавека і любоў, якая ёсць праяўленнем веры і сутнасцю хрысціянства. І сапраўды, гэтае простае пасланне Папы закранае больш пякучыя праблемы нашага грамадства, чым усе паказаныя раней на нашых тэлеканалах скандалы. Ці не трагедыя гэта, што мы паволі перастаём даверяць іншаму чалавеку? Ці не страшна гэта, што зайздрасць у нашым жыцці пачынае паволі забіваць звычайнае братэрства і салідарнасць між намі? І што супольнага мае сённяшні хрысціянін з любоўю, якую Наш Пан учыніў асноўным загадам і запаветам?

**Якое пасланне нам, католікам, і нашаму Касцёлу скіраваў новы Папа Францішак?**

Напэўна, Бог пасылае нам Пастыра, які марыць пра Касцёл больш просты і ўбогі, пра Касцёл, у якім больш слабыя дзеці адчуваюць не пагарду з боку іншых, але могуць атрымаць дапамогу, пра Касцёл, які менш асуджае грэшны свет, а перш за ўсё дае надзею, сілу, суцяшэнне. Думаю, што кожны з нас – і святары, і сёстры, і вернікі – з радасцю прымае гэтае пасланне і зробіць усё дзеля таго, каб жыць у такім Касцёле.

**Глыбокапаважаныя святары, кансэкраваныя асобы, браты і сёстры!**

Я прашу шчыра кожнага з Вас аб малітве за нова-абранага Папу Францішка і за Касцёл. Няхай усіх нас блаславіць Хрыстос Добры Пастыр, Які шукае кожную загубленую авечку, каб прывесці ў Свой Статак. Няхай спасылае нам пастыраў паводле Ягонага Сэрца і вядзе нас да нябеснай Айчыны Свайго Валадарства супакою.

*Апостальскі адміністратар sede vacante ad nutum Sanctae Sedis Віцебскай дыяцэзіі*
***ксёндз-прэлат Францішак Кісель***
*Віцебск, 13 сакавіка 2013 г.*

# Успамін Казіміра Сваяка

**ВОСЬ УЖО СЕМ ГАДОЎ ПРАЦЯГВАЕЦЦА СЯБРОЎСТВА ПАМІЖ ПАРАФІЯНАМІ КАМАЙСКАГА КАСЦЁЛА І АСТРАВЕЧЧЫНЫ. ЗВЫЧАЙНА ДВА РАЗЫ НА ГОД, У ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ І Ў ДЗЕНЬ СМЕРЦІ ПАЭТА-СВЯТАРА КАЗІМІРА СВАЯКА, АДБЫВАЮЦЦА ЎЗАЕМНЫЯ ВІЗІТЫ ГЭТЫХ ДЗВЮХ СУПОЛЬНАСЦЕЙ.**

**Генавефа Дубіловіч**

Вось і сёлета, 24 лютага, у нядзелю, камайскі касцёл наведала дэлегацыя з Астравеччыны. У касцёле адбылася святая Імша, прысвечаная 123-годдзю з дня нараджэння Казіміра Сваяка. Яе ўзначаліў малады святар, вікарый пастаўскага касцёла Даніла Мыслянцаў, ураджэнец Расіі.

Святар прыехаў у Беларусь, каб паслужыць яе народу, адраджэнню яго духоўнасці і культуры. Будучы прыхільнікам творчасці і дзейнасці Казіміра Сваяка, святар у сваім казанні прыводзіў цытаты з яго вершаў і выказванняў. Як прыгожа і чыста кс. Даніла гаварыў па-беларуску! Кожнае яго слова адбівалася ў сэрцах прысутных. Як гэта ўсё было павучальна для ўсіх нас!

Пасля святой Імшы была канцэртная праграма, прымеркаваная да Сусветнага дня роднай мовы. Яе вяла пляменніца К.Сваяка Іаланта Валуевіч. Яна выказала словы глыбокай удзячнасці пробашчу касцёла кс. Яцэку за ўшанаванне і ўвекавечанне памяці іх славутага земляка, за сумесную духоўную і культурную дзейнасць, за гасціннасць і дабрыню.

Гучалі песні на словы Казіміра Сваяка, а таксама вершы і песні астравецкіх аўтараў, прысвечаныя Казіміру Сваяку, беларускаму народу, роднаму краю. Упрыгожваў святочную праграму гурт "Балцкі субстрат" з Мінска пад кіраўніцтвам Максіма Іўкіна.

Словы падзякі ксяндзу Яцэку і ўсім прысутным выказала выкладчыца Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Пятра Машэрава Кацярына Лаўрыненка.

Пасля Імшы госці мелі магчымасць падсілкавацца ў парафіяльным доме, працягнуць размову ў нефармальнай абстаноўцы, нават напісаць дыктант на беларускай мове паводле тэксту з дзённіка Казіміра Сваяка "Аб нашай "простай" мове".

Сустрэча была радаснай і цёплай, па-сапраўднаму "сваяцкай". Такія сустрэчы – гэта вялікая Божая міласць, яны незабыўныя для кожнага з нас, яны ўмацоўваюць веру і аб'ядноўваюць людзей.

Ад імя ўсіх неабыякавых да лёсу і гісторыі нашай Айчыны парафіян хачу выказаць сардэчную ўдзячнасць за арганізацыю свята ксяндзу Яцэку, Іаланце Валуевіч і ўсім, хто спрычыніўся да правядзення гэтай імпрэзы.



# ВЕЛІКОДНАЕ ПАСЛАННЕ СВЯТАРАМ, АСОБАМ КАНСЭКРАВАНЫМ І ВЕРНІКАМ ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

## Апостальскага адміністратара ксяндза-прэлата Францішка Кісяля ВЯЛІКДЗЕНЬ 2013

*Пачатак на стар. 1*

У гэты Святы Дзень, браты і сёстры, многія вашыя дзеці і блізкія прыедуць у бацькоўскі дом, каб раздзяліць з Вамі гэтую вялікую радасць. Але, на жаль, у сэрцах многіх з іх можна прачытаць такія словы: *"Забралі Пана, і мы ўжо не ведаем, дзе Ён"*. Так, той Бог, які быў такі блізкі ў бацькоўскім доме, да якога так шчыра калісьці мы маліліся ў дзяцінстве, знік з нашага жыцця. Яго ўкралі горад альбо новая праца, заняткі альбо сямейныя праблемы. Ёсць так шмат нашых братоў і сясцёр, якія пакінулі Касцёл, даўно не былі ў споведзі, забыліся пра святкаванне нядзелі. Яны не адракаліся ад Бога, яны не сталіся злымі людзьмі, але трывога гэтых слоў бачна ў іхніх вачах: *"Забралі нам Пана, і мы не ведаем, дзе паклалі Яго"*.

Вось таму ў гэты Дзень мы чуем словы, якія прымушаюць устрапянуцца нашыя сэрцы: "Я Уваскрос і цяпер заўжды буду з Табою". Бог павінен уваскрэснуць у кожным нашым сэрцы, у кожнай нашай сям'і, той Бог, які праз нашу няўважлівасць альбо празмерную заклапочанасць можа здавацца непрысутным.

Марыя Магдалена і вучні, што бягуць у грабніцу, шукаючы цела Пана, з'яўляюцца для нас вобразам сучаснага чалавека, які знаходзіцца ў пастаянным паспешлівым бегу, але з сэрцам трывожным і поўным неспакою шукае Бога. Чалавек не можа жыць без Бога і заўсёды будзе яго шукаць, толькі як і дзе? Многія ў пошуках жывога Бога трапілі ў розныя небяспечныя секты, іншыя спаталяюць унутраны голад свайго сэрца, кідаючыся ў розныя прапановы сённяшняга свету, і таму голас Анёла ля грабніцы сёння пытае ў кожнага з нас: *"Чаму шукаеце жывога паміж памерлымі?"* (Мц. 24,5). І сапраўды, дзе мы шукаем Бога? Дзе стараемся знайсці прахаладу для нашага сэрца? Дзе мы лечым нашыя раны і чым кормім нашыя душы? Можа, сапраўды, словы Евангелля гучаць для нас: *"Няма Яго тут, Ён уваскрос!"* (Мц. 24,6).

Не трэба шукаць Бога там, дзе Яго няма, бо замест сапраўднага жыцця мы можам знайсці смерць. Не трэба траціць сілы на тое, што не дае нам сапраўднай радасці, а толькі на нейкі час дазваляе нам забыцца пра нашыя праблемы. Сёння Бог дае адказ на ўсе нашыя пытанні і паказвае шлях да сапраўднага шчасця. Уваскрослы Хрыстос – вось адзіны шлях чалавека да Бога, не прості, але сапраўдны і не падманны.

На Вялікдзень мінулага 2012 года з вуснаў папы Бэнэдыкта XVI мы пачулі словы: "Езус паўстае з труны. Жыццё мацнейшае чым смерць. Дабро мацнейшае чым зло. Любоў мацнейшая чым нянавісць. Праўда мацнейшая чым хлусня...". Вось пасланне Бога кожнаму з нас на гэты дзень, якое мы павінны не толькі пачуць, але прыняць усім сэрцам і ўчыніць правілам свайго ўласнага жыцця.

**Браты і сёстры!**

Марыя Магдалена і Апосталы, што паспешна бягуць да магілы, у якой быў пахаваны Езус, павінны нас заахвоціць далучыцца да іх. Давайце вырушым у шлях, каб шукаць Яго. Сэрцы вучняў, што імкнуць да магілы, перапаўняе трывога, бо яны перажылі столькі страху і трывогі. Тры апошнія дні сталіся для іх доўгай цёмнай ноччу, што ледзь не знішчыла іх веру, іх надзею, ледзь не забрала сэнс жыцця, ахвоту ісці далей. Магчыма, і мы перажылі за апошнія гады не адну такую ноч Вялікай Пятніцы, можа, лютая хвароба апанавала нас альбо нашых блізкіх, можа, і ў нас амаль не засталося сіл спадзявацца, любіць, жыць... І таму трэба вырушыць у шлях, трэба бегчы, як вучні, каб знайсці Бога Жывога, Бога, які адорыць нас ласкай і сілай, заменіць нашу ноч на раніцу жыцця.

Вялікоднай раніцай вучні, што сустрэлі Уваскрослага Пана, сталіся сведкамі Ягонага Змёртвыхпаўстання і абвяшчалі гэтую радасную вестку усім людзям. Мы, сучасныя хрысціяне, павінны сёння запрасіць увесь свет яшчэ раз глянуць на гэтую асобу – Езуса з Назарэта. Пра гэтага Чалавека чулі ўсе, але многія палічылі Яго памерлым. Многія думаюць, што час, калі Ён быў патрэбны людзям, ужо мінуў, і Хрыстос са сваёй навукай не патрэбны ўжо сучаснаму чалавеку. Хрыстос не памірае, Ён жыве вечна. Але павінен уваскрэснуць нанова ў нашай свядомасці, у розумах і сэрцах сённяшніх людзей. Гэта заданне для нас, хрысціянаў, сказаць сённяшняму свету і кожнаму чалавеку, што Езус з Назарэта, які быў асуджаны пры Понцкім Пілаце, выкінуты з нашых святынь і з жыцця шматлікіх людзей атэістычнай сістэмай, складзены ў магілу няпамяці, і многімі забыты – Уваскрос!

**Браты і сёстры!**

Няхай жа кожнае неспакойнае і трывожнае сэрца, якое шукае Бога, наблізіцца да асобы Хрыста, Божага Сына. Паспрабуем яшчэ раз аднавіць і нашу веру і нашае жыццё. Будзем жа шукаць Ягоны Воблік, вернемся да ягонага слова і паводле гэтага слова пастараемся будаваць нашае жыццё, пойдзем на сустрэчу з Ім у Святой Камуніі. Няхай гэта навіна пра Ягонае ўваскрасенне зноў стане новай. Дазвольце скончыць гэтае разважанне словамі Святога Аўгусціна:

– Вось і надышлі гэтыя дні, браты, калі мы ўсклікаем: Алелюя! І душа наша нейкім дзіўным чынам змяняецца. ... Калі сёння такая радасць перапаўняе нашыя сэрцы, то як жа мы ўзрадуемся ў той дзень, калі пачуем: « Прыйдзіце, благаслаўёныя Айца майго, вазьміце ў спадчыну валадарства» (Mt 25,34). І тады ўсе святыя збяруцца разам; тады сустрэнуцца тыя, што ніколі не былі знаёмыя; і там наш сябра ніколі не знікне, і наш вораг не будзе нас больш палохаць. Дык давайце ўсклікаць Алелюя; гэта так прыгожа, так радасна, колькі ў гэтым весялосці, лёгкасці і слодычы!

**Хрыстос Уваскрос!**
**Сапраўды Уваскрос!**

Св. Аўгустын, Sermone 229/B,2

*Апостальскі адміністратар sede vacante ad nutum Sanctae Sedis Віцебскай дыяцэзіі*
***ксёндз-прэлат Францішак Кісель***

# РЭКАЛЕКЦЫІ "ЎНУТРАНАЕ АЗДАРАЎЛЕННЕ"



**З 8 па 10 сакавіка 2013 г. у рэкалекцыйным доме сясцёр-эўхарыстак адбыліся рэкалекцыі "Унутранае аздараўленне".**

Сустрэчу праводзіў кс. Аляксандр Жарнасек МІС, пробашч парафіі ў Оршы. Апрача канферэнцыі і казанняў гэта быў час асаблівага засяроджання, маўчання і малітвы. Кожны з 20-ці ўдзельнікаў сустрэчы меў магчымасць споведзі, асабістай размовы і малітвы аб унутраным аздараўленні.

Рэкалекцыі былі арганізаваныя ў межах "Школы Духоўнай Фармацыі". У гэтым годзе плануюцца яшчэ тры сустрэчы, прысвечаныя наступным тэмам: прыпавесць пра сейбіта, Марыя і кніга Псальмаў.

Таксама ў нядзелю кс. Аляксандр правёў малітву аб унутраным аздараўленні ў браслаўскім Санктуарыі Маці Божай Валадаркі Азёраў. Пасля Св. Імшы а 19-й гадзіне адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, пазней – малітва, у якой удзельнічалі святары, што працуюць у Браслаўскай парафіі.

Дрысвяты

## Бог паслаў такога святара

*У красавіку 2011 года ў парафію святых Пятра і Паўла, што ў Дрысвятах Браслаўскага раёна, прыехаў пробашч – кс. Часлаў Халгас.*

*Гэта святар, які глыбока ведае духоўныя і матэрыяльныя патрэбы людзей. Ён адразу спадабаўся ўсім парафіянам і для многіх стаў прыкладам самаахвярнага служэння Богу і людзям. Кожнае яго слова трывала западае ў душу, спрыяе духоўнаму ачышчэнню. Да кс. Часлава хінуцца і старыя, і дзеці, і моладзь, яны нясуць сваё гора і радасць, дзеляцца смуткам і болем.*

*Наш пробашч не па ўзросце працалюбівы. Акрамя касцёла ён праводзіць яшчэ св. Імшы ў трох капліцах у аддаленых вёсках, не звяртаючы ўвагі на надвор'е. Снег або мяцеліца – яму не перашкода. А колькі цяжкасцяў у ксяндза пры выкананні рамонтных работ! Але ўсе непрыемнасці ён зносіць цярпліва.*

*Мы хочам падзякаваць кс. Чаславу за асвячэнне ў калядны час нашых дамоў, у якія ён прынёс Божае святло. Дзе не даехала машына, святар дайшоў пешшу. Мы вельмі яму ўдзячныя.*

*24 сакавіка ў кс. Часлава дзень нараджэння. Жадаем яму моцнага здароўя, зямнога шчасця, радасці, сонечных дзён, плённай працы, здзяйснення ўсіх мараў і задумак, роўных сцежак і толькі добрых людзей на святарскім шляху. Няхай Усемагутны Божа ніколі не пакідае, а Маці Божая ахіне сваёй апекай на доўгія гады святарскага служэння.*

*Парафіяне касцёла святых Пятра і Паўла ў в. Дрысвяты Браслаўскага раёна*



Расоны

## Шчыра

*"Каталіцкі Веснік" я выпісваю амаль з самага пачатку. Я ўжо на адпачынку па ўзросце, але трымаю вялікую гаспадарку, у мяне шмат зямлі, шмат працы. Але ж я вельмі люблю кветкі. У мяне заўсёды "вясна", бо кветкі ў хаце растуць на падлозе, на падаконніках, звісаюць са столі. А на вуліцы заўсёды шчабечуць птушкі (вераб'і, сінічкі, зелянушкі), для якіх у кошык кладу сала і батон, а на снег сыплю камбікорм. Шмат кветак вясной сею ў вялікім кветніку, растуць яны ў мяне нават на плоце ў старым посудзе.*

*Я 21 год адпрацавала даяркаю ў калгасе. Атрымлівала ўзнагароды за працу па некалькі разоў на год, бо з Божай дапамогай працуецца лёгка. Таксама шмат кветак садзіла каля фермы і на сваёй сядзібе. Гады тры садзіла кветкі каля царквы (у той час у Расонах не было каталіцкай парафіі). Траіх дзетак з праблемных сем'яў угаварыла прыняць хрост у царкве, дамаўлялася з бацюшкамі.*

*Бог дапамагаў, я спраўлялася ўсюды. Была раённым дэпутатам. Трэба было ў чатыры вёскі на ровары даехаць, каб дапамагчы людзям вырашыць праблемы.*

*У мяне двое дарослых дзяцей. Дачка ў касцёл хадзіць не хоча. Унукі, калі былі малымі, хадзілі разам са мной. А цяпер выраслі і таксама не хочуць. У касцёл кожную нядзелю і ў святы мяне падвозіць на машыне муж, але сам чакае "пад вуглом". Сын з Украіны ў студзені прыязджаў у госці, у нядзелю быў разам са мной у касцёле. Яму спадабалася, казаў, што будзе хадзіць у касцёл у сваім горадзе.*

*Калі ў нас стварылася парафія, каля 40 дзетак было, але выраслі і "паўцякалі". Спытала ў адной дзяўчыны, чаму перастала хадзіць у касцёл, а яна адказала, што галоўнае, каб Бог быў у душы. Я ёй кажу: "А хто ж будзе дапамагаць існаваць парафіі?" А яна ў адказ:"Напэўна, такія як Вы".*

*Ксёндз Вячаслаў кожнае лета арганізоўваў адпачынак для дзяцей і моладзі, вадзіў у пілігрымку да Маці Божай у Будслаў, вазіў па Беларусі і за мяжу. А вось павырасталі няўдзячнымі, і няма адказу: чаму?*

***Часлава Васільева,***
*Расонская парафія*

# БЫЦЬ РУКАМІ ХРЫСТА

**Новапрэзбітар Даніла Мыслянцаў, вікарый Пастаўскай парафіі, 9 сакавіка, у перыяд Вялікага посту, прыбыў у Мосар, каб падчас духоўных практыкаванняў (рэкалекцый) удзяліць прыміцыйнае бласлаўленне.**

■ **кс. Аляксей Юркайць**, *фота з архіва парафіі*



Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў 1917 годзе бальшавікі пачалі зачыняць касцёлы, святароў вывозіць у Сібір, і мільёны людзей сталі ахвярамі рэпрэсій таталітарнага рэжыму. Святароў саджалі ў вязніцы, высылалі на катаржныя працы ці ўвогуле расстрэльвалі. З касцёлаў рабілі спартыўныя залы, клубы, зернясховішчы, цэхі заводаў або проста ўзрывалі.

Толькі пад канец 80-ых гадоў улады дазволілі адкрыць касцёлы, вызнаваць веру і адпраўляць набажэнствы. Першы сакратар камуністычнай партыі Міхаіл Гарбачоў падпісаў закон "Аб свабодзе сумлення", у якім канстатавалася, што вернікам зноў дазволена вызнаваць сваю веру, а святарам – адпраўляць публічныя набажэнствы і катэхізаваць дзяцей і моладзь.

Пасля жнівеньскага путчу ў 1991 г. у Маскве і забароны дзейнасці КПСС у дзяржаўных установах і арганізацыях ужо недзе пачалі знімаць камуністычныя сімвалы. З брамаў многіх прадпрыемстваў зніклі савецкія зоркі, аднак на руінах былога Саюза ўсё яшчэ "блукае прывід" Сярпа і Молата, Штыка і Мяча. І ўсёж-такі недзе на постсавецкай прасторы на гарызонце ўжо віднеецца і ззяе Крыж, знак Хрыстовага збаўлення!

(***)

...Пасля распаду СССР у Расіі, на Урале, у горадзе Перм, што знаходзіцца за паўтары тысячы кіламетраў ад Масквы, студэнты гістарычнага факультэта праводзілі археалагічныя раскопкі і знайшлі ўкрыжаванне Хрыста. За 70 гадоў драўляныя элементы крыжа былі знішчаны, засталася толькі фігурка Хрыста, але была яна без рук. Па надпісе "INRI" на ўкрыжаванні два хлопцы здагадаліся, што гэта каталіцкае распяцце. Пашкадаваўшы яго здаваць у музей, яны прыйшлі ў адроджаны касцёл у Пярмі і кажуць: "Мы знайшлі Хрыста". Маладзёны аддалі старажытнае ўкрыжаванне – фігурку Хрыста без рук – святару.

Праз год гэтыя студэнты зноў прыйшлі да святара і сказалі: "Мы знайшлі Хрыста".

"Я памятаю", – кажа святар. "Мы сапраўды яго знайшлі, – зноў гаворыць хлопцы. – Мы хочам хрысціцца".

Удзяліўшы хрост, святар звяртае іхнюю ўвагу: "Хрыстос ужо не мае рук, таму вы будзеце Ягонымі рукамі"...

(***)

Святар Даніла таксама ў юнацкія гады ў Расіі знайшоў Хрыста, "прайшоў" доўгі шлях падрыхтоўкі і тры месяцы таму, 8 снежня, з рук ксяндза біскупа Уладзіслава Бліна, Ардынарыя Віцебскай дыяцэзіі на пенсіі, атрымаў святарскае пасвячэнне. "Ego sum sacerdos" – гэты незвычайны дар, які абавязвае быць слугою Хрыста, быць Яго "рукамі", каб служыць як інструмент Божай любові для збаўлення людзей і ўсяго свету.

Новапрэзбітар спавядаў, супольна маліўся, цэлебраваў урачыстую святую Імшу і прамаўляў велікапосныя навукі – наблізіў гэтую вялікую радасць хрысціянскага паклікання – "быць рукамі Хрыста, Хрыста ўкрыжаванага і ўваскрослага"!

Напрыканцы літургіі душпастыр парафіі і парафіяне з в. Мосар і в. Савуткі падзякавалі новапрэзбітару за праведзеныя рэкалекцыі, павіншавалі яго і пажадалі плённага святарскага служэння.

Няхай жа добры Бог адорвае новапрэзбітара Данілу мужнасцю і радасцю ў абвяшчэнні Добрай Навіны і працы на Божай ніве ў Беларусі, а ўсім нам дапамагае "быць рукамі Укрыжаванага і Уваскрослага Хрыста"!

**Варапаева**

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

Немагчыма ўявіць наш касцёл без с. Марыны і с. Мар'яны. Усё, што адбываецца ў касцёле, праходзіць з іх удзелам. Гэта сапраўдныя творцы: колькі дэкарацый да кожнага свята, колькі спектакляў і сцэнак падрыхтавана імі, колькі розных песень вывучана з дзецьмі да кожнай св. Імшы! Але самае галоўнае – гэта іх нястомная праца па духоўным развіцці нашых дзяцей і моладзі. Я добра ведаю, колькі цярплівасці, памяркоўнасці, ласкі і дабрыні праяўляюць сёстры ў адносінах да кожнага дзіцяці. Мы ўдзячныя с. Марыне і с. Мар'яне за ўсе клопаты, за стваральную працу, за духоўнае выхаванне дзетак і моладзі, за добразычлівасць, за ўменне быць для кожнага парафіяніна сапраўднай падтрымкай. Яны для нас – прыклад жывой веры і любові. Няхай добры Божа адорвае сясцёр патрэбнымі ласкамі.

*Сям'я Мышко,*
*г.п. Варапаева*



## Фестываль «Магутны Божа» пройдзе ў Магілёве 24-28 чэрвеня

**Заяўкі на ўдзел у конкурснай праграме ўжо ёсць з Беларусі, Расіі, Грузіі, Арменіі, Італіі, ЗША і іншых краін.**

Пра гэта паведамляе БЕЛТА са спасылкай на аддзел культуры Магілёўскага гарвыканкама.

У праграме юбілейнага фестывалю — шмат выстаў, канферэнцый, творчых сустрэч і канцэртаў.

«У гэтым годзе абласны цэнтр будзе прымаць міжнародны фестываль «Магутны Божа» ў статусе культурнай сталіцы Беларусі і Садружнасці. Гэта накладвае асаблівы адбітак на яго правядзенне. Плануецца як мага далей адыйсці ад афіцыёзу і зрабіць асаблівы ўхіл на духоўнасць, задзейнічаючы шмат адкрытых канцэртных пляцовак», — адзначылі ў гарадскім выканаўчым камітэце Магілёва.

Сёння вядуцца размовы аб удзеле ў фестывалі такіх вядомых калектываў, як аркестр «Віртуозы Масквы» пад кіраўніцтвам Уладзіміра Співакова, хор Кіева-Пячэрскай лаўры і многіх іншых.

*www.catholic.by*

**Еўропа**

## Праслед хрысціян у Еўропе

**"У Еўропе працягваецца хваля нянавісці супраць хрысціян і Каталіцкага Касцёла", - заявіў італьянскі сацыёлаг Масімо Інтровінье, прадстаўнік Арганізацыі па Бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе па барацьбе з расізмам, ксенафобіяй і дыскрымінацыяй.**

У сваёй штогадовай справаздачы для АБСЕ ён пералічыў дакументамі 67 выпадкаў крымінальных злачынстваў у дачыненні да хрысціян за апошнія 12 месяцаў. "Шэсць выпадкаў тычацца актаў вандалізму супраць Касцёлаў, за якія адказнасць нясуць ультра-фундаменталісцкія ісламскія групоўкі. 15 гэта фізічныя напады на хрысціян, якія выступалі супраць абортаў ці аднаполых саюзаў. 46 выпадкаў – гэта антыхрысціянскія напады на касцёлы, капліцы, а часам на асобу святара", – адзначыў італьянскі сацыёлаг.

Паводле яго, гэтыя акты сведчаць аб сапраўднай кампаніі нянавісці супраць Касцёла, якая стае ўсё больш інтэнсіўнай, асабліва, калі справа тычыцца розных спрэчных пытанняў, напрыклад аднаполых саюзаў, а таксама вялікіх падзей у жыцці католікаў, якім з'яўляецца цяперашні канклаў. "Выступленні супраць хрысціян не спыняюцца толькі на ўзроўні звычайных зняваг, але часта ператвараюцца ў крымінальныя дзеянні, якія маюць за аснову рэлігійную нянавісць", – адзначыў Масімо Інтровінье.

*Ватыканскае радыё*

# Падзяка за супольнасць

**«Цэнтрам духоўнага жыцця і апостальскай дзейнасці ўсёй супольнасці СЯСЦЁР-СЛУЖАБНІЦ ЕЗУСА Ў ЭЎХАРЫСТЫІ з'яўляецца Езус Хрыстус у таямніцы Эўхарыстыі». Менавіта так, перад Езусам у Найсвяцейшым сакраманце, распачалося ўрачыстае святкаванне 90-годдзя з дня заснавання Кангрэгацыі.**

**с. Святлана Грэйць**, *тэкст і фота*

У часе адарацыі гучалі спевы, якія падрыхтавала моладзь з сёстрамі, разважанні, у якіх дзякавалі Пану Богу за атрыманыя ласкі на працягу 90 год свйго існавання, маліліся за сясцёр, якія адышлі ў вечнасць і прасілі аб далейшым бласлаўленні. Пасля супольнай малітвы перад Найсвяцейшым сакрамантам, а 12 гадзіне, распачалася св. Імша, якую ўзначаліў Апостальскі адміністратар Віцебскай дыяцэзіі ксёндз-прэлат Францішак Кісель. Кс. Сяргей Сурыновіч – пробашч парафіі св. Тройцы ў Друі – прывітаў сабраных гасцей. С. Зофья Грыгатовіч – настаяцельніца Беларуска-Літоўскай дэлегатуры – ад імя супольнасці сясцёр-эўхарыстак прывітала галоўнага цэлебранса, святароў, гасцей з Польшчы, сясцёр, якія сабраліся з розных дыяцэзій на ўрачыстасць, бацькоў сясцёр і ўсіх вернікаў, што прыйшлі ў святыню, каб разам маліцца.

Перад гаміліяй, якую прамовіў а. Міхаіл Цвячкоўскі МІС, с. Святлана Грэйць прачытала кароткі гістарычны рыс Кангрэгацыі сясцёр-служабніц Езуса ў Эўхарыстыі. У працэсіі з дарамі ад супольнасці эўхарыстак быў ахвяраваны для парафіі абрус. Спевам літургію ўпрыгожыў хор з Друі і Слабодкі. Пасля Камуніі сёстры аднавілі законныя шлюбы: чысціні, беднасці і паслухмянасці, пасля якіх у бок сясцёр былі скіраваны віншаванні.

Пасля св. Імшы была магчымасць паслухаць пра гістарычныя экспанаты, змешчаныя ў касцёле. Пра тое, як яны звязаны з мінулым сясцёр, расказала Кацярына Лаўрыненка. Таксама была падрыхтаваная выстава са здымкамі, на якіх можна было ўбачыць як пачатак працы і жыцця сясцёр, так і сучасныя выявы.

Сёння дзякуем Пану Богу за тое, што паклікаў да жыцця супольнасць сясцёр-эўхарыстак, за іх адданую службу Богу і людзям, просім аб патрэбных ласках, мужнасці і моцнай веры на дарозе свайго паклікання.



ІНТЭРНАТ-ГІМНАЗІЯ, ДРУЯ 1937 г.

# Новы Папа:
# Чаканне і радасць віцебскай моладзі

**Habemus Papam!!! Навіна, якая прынесла вялікую радасць усім каталікам свету. А што пра гэта думаюць чытачы "Каталіцкага весніка"? Сваімі ўражаннямі дзеліцца моладзь Віцебскай дыяцэзіі.**

*Падрыхтавала Вікторыя Колзун*




**Аляксандр Зайцаў, 20 г.:**
– Habemus Papam!!!




**Вікторыя Колзун, 21 г.:**
– Habemus Papam FRANCISCUM !!!
Радасная і вельмі прыемная навіна! Я з вялікай цікавасцю сачыла за апошнімі навінамі з Ватыкана. Для кожнага каталіка абранне новага Папы – гэта хвалюючы момант, менавіта ад гэтай падзеі залежыць, у якім напрамку будзе далей развівацца Каталіцкі Касцёл. Спадзяюся на волю Пана і веру, што Сабе на службу Госпад выбірае найлепшых. Няхай ён будзе мудры і святы, а я буду сваёй малітвай падтрымліваць яго.
Vivat, Papa!




**Раман Калугін, 22 г.:**
– Я вельмі рады, што выбралі новага Папу. Спадзяюся, што ён будзе кансерватарам і будзе пільна захоўваць традыцыі Каталіцкага Касцёла. Як вернік-католік я буду падтрымліваць яго сваёй малітвай. Спадзяюся, што Папа будзе выдатна вырашаць усе праблемы Касцёла. Я глыбока перакананы, што ён будзе з усёй адказнасцю выконваць функцыі Вікарыя Хрыста.




**Марыя Ствол, 25 г.:**
– Очень рада, что у нас вновь есть Папа! Со всем Католическим миром радуюсь и молюсь за него!




**Марыя Кісель, 20 г.:**
– Спадзяюся, што Папа Францішак І будзе добрым і святым намеснікам Хрыста на зямлі!




**Аліна Самалазава, 21 г.:**
– Habemus Papam!!! Католиков всего мира поздравляю с этим великим днем. Не знаю, как вы там себя чувствуете…. Но меня переполняют эмоции.
Франциск I. Меня сразу обрадовало две вещи: 1)То, что новый Папа аргентинец…
2) То, что он иезуит. Надеюсь, что он продолжит традиции бл. Яна Павла II. Надеюсь также, что он будет уделять должное внимание католической молодежи. И, надеюсь, он станет воистину хорошим приемником Петра.
Я рада… Ведь я точно знаю, что на все есть ЕГО воля. Бог любит нас… И пасти своих овец Он доверит только лучшему.

## Балада пра душу

*Крупінка радасці, горычы чаша*
*Складаліся ў лёс жыццёвы.*
*Але душа чалавека, няйначай,*
*Не ведала шчасця асновы.*

*Вілася сцяжынка між руж і праз церні,*
*Кружыла то ўлева, то ўправа,*
*Узлятала да зорак, гублялася ў цемры,*
*Па бездарожжы пятляла.*

*Блукала душа і цярпела ад ранаў,*
*Пякучым агнём што гарэлі.*
*Блік сонца бачыла паўз туманы,*
*Вясновую квецень праз шэрань.*

*У пошуках шчасця душа ў скрусе*
*"Куды ж павярнуць? – пытае.*
*Налева пойдзеш – злая спакуса*
*Шчупальцы раскрывае.*

*Направа – багацце жыццё прарочыць,*
*Здавалася б, якое!*
*Жыві бестурботна і май, што захочаш,*
*Ды толькі няма спакою."*

*І вечнай вандроўніцай быць не жадала,*
*У пошуку хто ж дапаможа?*
*Нарэшце, аднойчы сцяжынку спаткала,*
*Якая вяла ў храм Божы.*

*Зведаўшы радасць і гора спаўна,*
*Бо колькі і як ні жывецца,*
*Большага шчасця, напэўна, няма*
*Як шчасце жыць з Богам у сэрцы.*

***Ганна Танана**, в. Коўзаны, Пастаўскі р-н*

## Віктарына "Спазнаём Біблію"



**1.Каго ўваскрасіў Езус за 6 дзён да габрэйскай Пасхі?**
а) сына Наінскай удавы
б) сына Хананеянкі
в) дачку Яіра
г) Лазара

**2. Якім чынам Езус Хрыстус падчас апошняй вячэры навучаў апосталаў братняй любові і пакоры?**
а) намасціў галовы апосталаў духмяным алеем
б) абмыў апосталам ногі
в) пагаліў апосталам бароды
г) абмыў апосталам рукі

**3. За якую ўзнагароду Юда прадаў Хрыста?**
а) 30 сярэбраных манет
б) 35 даляраў
в) 300 тысяч бел. рублёў
г) 33 дынарыі

**4. Хто з вучняў тройчы адрокся ад Хрыста?**
а) апостал Ян
б) апостал Пётр
в) Юзаф з Арыматэі
г) апостал Якуб

**5. Які рымскі пракуратар асудзіў Хрыста?**
а) Цэзар Аўгуст
б) сотнік Антоній
в) Понцій Пілат
г) Ірад Агрыпа

**6. Хто дапамагаў Езусу несці крыж на Галгофу?**
а) апостал Андрэй
б) Сымон Кірынеец
в) апостал Пётр
г) Нікадэм

**7. Што ў перакладзе з арамейскай мовы азначае "Галгофа"?**
а) "Зламаныя косці"
б) "Урочышча чарапоў"
в) "Гара справядлівасці"
г) " Месца, дзе Бог бачыць"

**8. Каго распялі побач з Езусам?**
а) апосталаў Яна і Якуба
б) Нікадэма і Барабу
в) двух разбойнікаў
г) двух справядлівых людзей

**9. Хто пахаваў Хрыста ў грабніцы?**
а) Юзаф з Арыматэі
б) Сымон Кірынеец
в) апостал Пётр
г) апостал Філіп

**10. На які дзень пасля сваёй смерці ўваскрос Езус Хрыстус?**
а) праз тыдзень
б) на другі
в) на трэці
г) праз 40 дзён

**11. Хто сказаў: "Пакуль не ўбачу на руках у Яго ранаў ад цвікоў і не ўкладу пальца майго ў раны ад цвікоў, і не ўкладу рукі маёй у бок Ягоны, не паверу»?**
а) апостал Мацвей
б) апостал Тамаш
в) Марыя Магдалена
г) апостал Ян

**12. Якое здарэнне адбылося на 40-вы дзень пасля Вялікадня?**
а) Перамяненне Пана на гары Табор
б) Дух Святы сышоў на апосталаў
в) Унебаўшэсце Хрыста
г) Унебаўзяцце Дзевы Марыі

***Падрыхтавала Вікторыя Колзун***

Адказы глядзіце на стар. 16

# 10 ГАДОЎ У ПАСТАВАХ



**Кс. Анджэй Возьняк ужо 10 гадоў працуе ў Віцебскай дыяцэзіі. Пра досвед святарскай працы ў Беларусі і рух "Новае аблічча парафіі" пойдзе размова ў гэтым інтэрв'ю.**

**– Кс. Анджэй, раскажыце, калі ласка, крыху пра сябе.**

– Я нарадзіўся ў Любартове каля Любліна. Вучыўся ў Кракаве. Маё святарскае служэнне налічвае ўжо 23 гады. Працаваў у розных парафіях у Польшчы. Падчас майго служэння ў Гдыні паступіла прапанова ад маіх братоў па ордэне папрацаваць у Беларусі, а менавіта ў Паставах.

**– Да якога ордэна вы належыце?**

– Я належу да ордэна Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса. Гэта місіянерскі ордэн. Таму браты-сэрцане, як нас называюць, працуюць у розных частках свету: у Афрыцы, Паўднёвай Амерыцы і ў Еўропе таксама. Наш харызмат – гэта праца з моладдзю, выхаванне дзяцей і моладзі. Вельмі добра памятаю свой прыезд у Паставы. Гэта было 10 лютага 2003 года. Я тады думаў, што папрацую ўсяго паўгода. Але так атрымалася, што працую ўжо тут 10 гадоў.

**– Праца пробашча ў беларускіх парафіях рознабаковая. Ведаю, што Вам давялося працаваць у розных напрамках. Якія поспехі Вас найбольш радуюць?**

– Так, сапраўды, шмат давялося папрацаваць над будынкам касцёла. Разам з парафіянамі мы зрабілі вітражы, новы алтар. З'явіўся зручны паркінг, а таксама пліткай абкладзена тэрыторыя вакол святыні. Канешне, і сама плябанія ўжо больш разбудаваная такім чынам, каб у ёй можна было праводзіць маштабныя мерапрыемствы і дзіцячыя летнікі. Мы таксама выкупілі ў горада суседні будынак і зрабілі там спартзалу і катэхетычныя класы. Гэтыя памяшканні добра нас выручаюць у душпастырскай працы. На іх базе разам са святарамі, якія са мной працуюць у Паставах, мы праводзім дзіцячыя летнікі, тут адпачываюць дзеці не толькі з Паставаў, але і з раёна.

**– Ведаю, што пры пастаўскім касцёле існуе пахавальная зала. Ці ахвотна карыстаюцца ёй вернікі?**

– Так, асабліва ўлетку, гэта вельмі зручна для тых, хто не можа трымаць нябожчыка дома. У пахавальнай зале знаходзіцца спецыяльны халадзільнік. Яна збудаваная такім чынам, каб родныя маглі ў малітве і супакоі развітацца з памерлым, не адчуваючы пры гэтым нейкага дыскамфорту. За 10 гадоў разам з парафіянамі нам удалося сапраўды зрабіць шмат. Але, адказваючы на Ваша папярэдняе пытанне, хацеў бы дадаць, што найбольшая ў мяне радасць усё-такі ад таго, што парафія развіваецца паводле руху "Новае аблічча парафіі".

**– Што гэта за рух? Раскажыце, калі ласка.**

– Гэты рух паўстаў, каб лепш рэалізаваць пастановы ІІ Ватыканскага Сабора. Парафія дзеліцца на маленькія сегменты-раёны. На чале іх стаяць адказныя вернікі-пасланцы. Мы часта праводзім сумесныя сустрэчы, на якіх абмяркоўваем самыя пільныя патрэбы і шукаем шляхі іх рэалізацыі.

**– Гэтым і адрозніваецца рух НАП ад традыцыйнага кіравання парафіяй?**

– Менавіта. У традыцыйным разуменні арганізацыі парафіі супольнасцю кіруе пробашч. Ён сам вырашае, на што звярнуць увагу ў душпастырстве. У руху НАП вялікая роля надаецца самім свецкім, іх ініцыятыве. Таму што яны найлепш ведаюць, чаго не хапае ім самім.

**– Дзе яшчэ, акрамя Паставаў, можна пазнаёміцца з рухам НАП?**

– У Беларусі паводле гэтага руху развіваюцца парафіі ў Глыбокім, Далёкіх і Опсе. Нядаўна з'явілася зацікаўленасць у Празароках, Пеліканах і Параф'янаве. А што тычыцца іншых краін, то рух НАП прысутнічае ў Польшчы, Германіі, Іспаніі і Італіі, а таксама шэрагу іншых дзяржаў.

**– Якія найбліжэйшыя задачы стаяць перад парафіяй у Паставах?**

– На апошніх сустрэчах з прадстаўнікамі з розных месцаў парафіі мы прыйшлі да высновы, што парафіянам неабходна вучыцца даваць сведчанне веры. Беларусы даволі замкнутыя ў сабе, калі гаворка ідзе пра выяўленне сваіх пачуццяў і перажыванняў – таксама рэлігійных – перад іншымі людзьмі. А гэта ўсё – неад'емная частка сведчання. А сведчанне пра Бога ў сваю чаргу патрэбнае, каб вера магла быць перададзеная наступным пакаленням. Таксама мы запланавалі ў парафіі своеасаблівы курс аніматараў. Будзем рыхтаваць людзей да чытання і разумення Святога Пісання. Наша мара – каб у кожным доме Божае Слова было шанаваным і патрэбным.

**– Папа Францішак не стамляецца прыпамінаць усім нам пра міласэрнасць. Як гэтая справа выглядае ў пастаўскай парафіі?**

– Мы працуем над гэтым. І рух НАП тут вельмі дапамагае. Пасланцы рэгіёнаў парафіі дакладна ведаюць усіх сваіх жыхароў. Калі яны бачаць пільную патрэбу дапамагчы некаму, то расказваюць аб гэтым на сустрэчах. Мы разам вырашаем, як дапамагчы тым, хто мае патрэбу. Збіраем сродкі, рыхтуем прадукты, напрыклад, і аказваем дапамогу.

**– А якія планы ў пробашча Паставаў і дэкана Пастаўскага дэканата на наступныя 10 гадоў?**

– *(Усміхаецца)*. Гэта залежыць ад таго, што нам падрыхтаваў Святы Дух. Будзем працягваць працу ў руху НАП і імкнуцца, каб парафія штораз больш станавілася сапраўднай братэрскай супольнасцю. Каб вернікі, седзячы на лаўках, не адчувалі сябе чужымі, але былі адно аднаму блізкімі і роднымі ў Хрысце. А рэдакцыі "Каталіцкага Весніка" хачу выказаць сваю ўдзячнасць. Газета карыстаецца папулярнасцю ў нашай парафіі. Вернікі знаходзяць там шмат карыснага для сябе, даведваюцца аб тым, чым жыве дыяцэзія. Гэтая газета – па-сапраўднаму наша газета.

**– Дзякую Вам за размову. І ад імя чытачоў жадаю Вам плённай працы ў пастаўскай парафіі.**

– Дзякуй.

*Гутарыў кс. Віктар Місевіч*



# БІСКУП З УСМЕШКАЙ

**Ведаем, што Святы Айцец Бэнэдыкт XVI прыняў прашэнне нашага дыяцэзіяльнага біскупа Уладзіслава Бліна аб адстаўцы з выканання паслугі пастырскага кіравання Віцебскай дыяцэзіяй. Прычынай прашэння Яго Эксцэленцыі быў стан асабістага здароўя. Таму вернікі з розных куткоў Беларусі распавялі "Каталіцкаму Весніку" аб сваіх успамінах пра біскупа і склалі яму свае пажаданні.**

*Падрыхтавала Ірына Грэйць*

**Людміла Скуба (Полацк):**
– Я вельмі люблю біскупа і заўсёды малюся ў яго інтэнцыі. Пры кожнай сустрэчы мы размаўлялі, я часта атрымлівала благаслаўленне. Біскуп Уладзіслаў нярэдка падтрымліваў добрым словам. Памятаю асабліва, калі ў Расонах ён падбадзёрваў мяне, прыводзячы ў прыклад Езуса Хрыста.

**Аляксандр Красоўскі (Брэст-Мінск):**
– Я амаль не сустракаўся з біскупам Уладзіславам, але ведаю яго з размоў маладых людзей. Заўсёды чуў словы ўдзячнасці, шчырай радасці і гонару за такога пастыра. Таксама глядзіш на плён, які прыносіць праца чалавека. А плён працы біскупа Уладзіслава вельмі вялікі: актыўная праца з моладдзю, шмат каталіцкіх і культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў. Са знішчанай камуністамі Віцебскай дыяцэзіі гэты чалавек зрабіў сапраўдны Аазіс! Ну і, канешне ж, шчырая ўсмешка і гатоўнасць слухаць. Памятаю сустрэчу моладзі ў Івянцы. Я быў уражаны, з якой шчырасцю і пяшчотай біскуп прамаўляе малітвы падчас Імшы. Вось такі след і ўяўленне ў маёй свядомасці складае Яго паважаная асоба. Малюся аб тым, каб яго пераемнік працягнуў гэту адданую працу. Ведаю, што біскуп, як і Папа, не бывае былым. Таму для мяне ён заўсёды застанецца носьбітам веры, любові і пяшчоты.

**Таццяна Вайцяховіч (Глыбокае):**
– Паважаны біскуп Уладзіслаў. Ад імя ўсёй Віцебскай дыяцэзіі хочацца сказаць Вам "дзякуй"! За тое, што Вы з любоўю і адданасцю аб'яўлялі Божае слова. За Вашу ўсмешку і адкрытае сэрца падчас малітвы з моладдзю. Дзякуй за арганізацыю пілігрымак у Будслаў, у якіх мы мелі магчымасць папрасіць аб патрэбах у Маці Божай і за ўсё падзякаваць. У якіх мы імкнуліся спазнаць веру, надзею і любоў. Хочацца падзякаваць за Вашу прысутнасць разам з намі на рэкалекцыях. Вы ніколі не забывалі пра нас, наведвалі парафіі. Дзякуй за магчымасць прыняцця Сакраманту бежмавання, у якім Дух Святы нас узмацняў. Дзякуючы Вашым казанням мы яшчэ больш вучыліся пазнаваць і любіць Бога. Няхай Дух Святы заўсёды адорвае Вас сваімі ласкамі. А са свайго боку мы абяцаем шчырую малітву за Вас!

**Ірына Губская (в. Савуткі, Шаркаўшчынскі раён):**
– Калі біскуп Уладзіслаў пачаў працаваць у нашай дыяцэзіі, мне было 7 гадоў. У нашай Мосарскай парафіі заўсёды быў вялікі фэст на 24 чэрвеня. Вернікі, а асабліва бабулі, не маглі ўявіць, што святар, а тым больш біскуп можа так проста размаўляць, жартаваць, гуляць з дзецьмі. Падчас Святых Імшаў, якія цэлебраваў біскуп Уладзіслаў, ён заўсёды звяртаўся да дзяцей, што дружна ахіналі алтар. Пазней, дзе б мы ні былі – у пілігрымках ці на моладзевых спатканнях, – ён быў побач, заўсёды з усмешкай на твары ды словамі падтрымкі на вуснах. Канешне ж, яму было цяжка часамі, але гэтага ніколі мы не бачылі ў яго аптымістычных вачах.

**Андрэй Худы (Мінск):**
– З біскупам Уладзіславам сустракаўся не адзін раз. Ён з'яўляецца тым чалавекам, якога сапраўды любяць. Для сваёй дыяцэзіі ён застанецца родным чалавекам. Да яго заўсёды мог звярнуцца кожны са сваёй асабістай праблемай. Ён ніколі не адмаўляў, заўсёды дапамагаў вернікам, быў адкрытым для людзей. Хочацца адзначыць яго аратарскія здольнасці. Яго казанні заўсёды былі эмацыянальнымі, цікавымі. Ён прамаўляў аддана, ад чыстага сэрца. Жадаем біскупу Уладзіславу хуткай папраўкі.

## БЕЛАРУСКІЯ "СКАЎТЫ-ВАНДРОЎНІКІ" СУСТРЭЛІСЯ Ў ДОКШЫЦАХ

**Дарослыя "скаўты-вандроўнікі" з розных куткоў Беларусі сабраліся ў Докшыцах, у мясцовым кляштары Ордэна братоў мен шых Капуцынаў. Духоўныя практыкаванні для скаўтаў па тэме "Жыць 8-ю благаславенствамі і скаўцкім правам" праводзіў беларускі манах-капуцын айцец Алег.**

На працягу двух дзён святар раскрываў сэнс васьмі благаславенстваў, абвешчаных Хрыстом у Нагорнай пропаведзі. Скаўты гаварылі з айцом Алегам і пра асновы веры, пра тое, чаго кожны чакае ад Бога. Разам усе прыйшлі да высновы: хрысціянін – гэта сляпы, які давярае сябе адзінаму відушчаму павадыру – Езусу Хрысту.

Акрамя правядзення канферэнцый па васьмі благаславенствах скаўты шмат маліліся і дапамагалі манахам у гаспадарцы: прыбіралі снег, вазілі дровы. Таксама хлопцы сустрэліся з мясцовымі міністрантамі, каб распавесці ім пра скаўтынг і зацікавіць іх.

Адпачывалі скаўты ў спартзале манастыра: там можна было выплеснуць энергію ў гульнях у тэніс і настольны футбол. Не адыходзячы ад скаўцкага ладу жыцця, хлопцы самі рыхтавалі сабе ежу, а на ад'езд добра прыбралі за сабой пакоі.

Як паведамляе гомельскі каталіцкі партал, пасля цырымоніі прыняцця ў свае шэрагі новых сяброў скаўты па традыцыі падкідвалі ўгору берэты, а потым сталі гушкаць і айца Алега, такім чынам падзякаваўшы яму за правядзенне рэкалекцый.



# ПЫТАННЕ СВЯТАРУ

## Ці можна рабіць татуіроўкі?




*"Добры дзень! Скажыце, ці можна хрысціяніну рабіць сабе татуіроўкі? Як да гэтага ставіцца Касцёл?"*
*Марыя, 20 год*

**На пытанне адказвае кс. Віктар Місевіч, г.п. Бягомль:**

– Уафіцыйным навучанні Каталіцкі Касцёл не закранае пытання татуіровак. Таму неабходна разглядаць кожны канкрэтны выпадак асобна. Найперш варта адказаць сабе на пытанне: навошта гэта мне?

Напэўна, заганнай будзе татуіроўка з агрэсіўным і зневажальным зместам. Некаторыя людзі пытаюцца пра рэлігійны характар татуіровак. Але і тут не ўсё адназначна. Напрыклад, хрысціяне-копты ў Егіпце ставяць сабе маленькія крыжыкі на запясцях, каб падкрэсліць сваю прыналежнасць да хрысціянства. У мусульманскім асяроддзі такая татуіроўка будзе сведчаннем пра Хрыста. Аднак у іншых супольнасцях рэлігійная сімволіка ўжываецца злачыннымі групоўкамі, дзе няма ніякай гаворкі пра ідэалы Евангелля. У выпадку хрысціян з Егіпта рэлігійная татуіроўка – гэта элемент уласнай хрысціянскай тоеснасці і культуры. У выпадку бандыцкіх гангаў – гэта абраза Бога. Калі мы кажам пра Беларусь, то татуіроўкі не з'яўляюцца элементам нацыянальнай культуры. Гэта штосьці новае для нас. А каб падкрэсліць сваю веру, можна проста насіць крыжык ці медалік на шыі.

Варта таксама памятаць, што першая татуіроўка часта прыводзіць да моцнага жадання зрабіць другую. Паўстае свайго кшталту залежнасць. А ўсё, што скоўвае свабодную волю чалавека, напэўна, супярэчыць Божым планам. Таму што Бог хоча, каб чалавек быў вольным ад любых шкодных звычак. Не трэба быць медыкам, каб разумець, што татуіроўкі, асабліва, калі іх шмат, могуць быць сур'ёзнай небяспекай для здароўя.

Татуіроўка – гэта яшчэ і фінансавыя выдаткі. Празмернае выдаткаванне сродкаў на такія мэты таксама будзе заганным. Варта таксама зазначыць, што многія людзі пазней шкадуюць, што ў маладосці зрабілі татуіроўку. Таму перад тым, як адважыцца на такі ўчынак, варта падумаць: а ці трэба мне гэта, ці патрэбна наогул? І канешне, не варта кіравацца паўсюднай модай.

## Вегетарыянства

*"Як Касцёл ставіцца да вегетарыянства? Мне здаецца, што не забіваць жывёл гэта вельмі па-хрысціянску... Дык чаму ж хрысціяне ядуць мяса жывёл?"*
*Аліна, 18 год*



**На пытанне адказвае кс. Валерый Марціноўскі, парафія Езуса Міласэрнага, г. Віцебск:**

– Хрысціянская этыка не забараняе забіванне жывёл і спажыванне іх мяса. Аднак пры гэтым неабходна дадаць наступнае:

1) дазвол на спажыванне мяса чалавек атрымаў толькі пасля першароднага граху (Быц. 9, 2). Паводле першаснага парадку, зададзенага Творцам, і свет жывёл, і чалавек павінны былі спажываць раслінную ежу (Быц. 1, 29). Толькі пасля грэхападзення, а асабліва пасля патопу, чалавек атрымаў дазвол ужываць побач з раслiннымі таксама і мясныя патравы. Св. Тамаш Аквінскі выказваўся так: "Простае жыццё спыняецца на спажыванні пладоў зямлі, а мяса мы спажываем з шукання раскошы і цікавасці жыцця" (Summa teologica, 1–2 q.102 a.6 ad 2).

2) Хрысціянская духоўнасць заўсёды высока цаніла ўстрыманне ад спажывання мяса, а таксама ад якога-кольвечы забівання.

Сярод вегетарыянцаў шырока распаўсюджана перакананне, што прыказанне "не забівай" датычыць таксама забароны забіваць жывёл. Аднак гэтае прыказанне, у сваім літаральным гучанні, не ахоплівала нават забіцця чалавека на вайне і выканання кары смерці, бо такія акты габрэйская мова акрэслівае тэрмінамі harag і hemit. У той час як у пятым прыказанні ўжыта слова rasah, што адпавядае слову "забойства". Тым больш, пятае слова Дэкалогу пашырае сам Езус, і няма сумневу, што справа датычыць толькі чалавека: "А я кажу вам, што кожны, хто гневаецца на брата свайго, падлягае суду" (Мц. 5,21).

Такім чынам, хрысціяне вераць, што "Валадарства Божае – гэта не справа таго, што ядзім ці п'ём, але справядлівасць, супакой і радасць у Духу Святым" (Рым. 14, 17). Фактам застаецца таксама і тое, што на працягу свайго існавання Касцёл пастаянна захоўваў павагу да вегетарыянства, але і адкідваў усялякія спробы асудзіць ці духоўна дыскрымінаваць людзей, якія спажывалі мяса. У 340 г. сінод у Ганры выразна пастанавіў: кожны, хто асуджае спажыванне з пабожнасцю і верай мяса і лічыць такіх пазбаўленымі надзеі на збаўленне, няхай будзе адлучаны ад Касцёла (кан. 2).

На заканчэнне варта прывесці ўсім вядомыя словы апостала Паўла, якімі ў дадзенай справе паклiканы кіравацца кожны хрысціянін: "Нямоглага ў веры прымайце без спрэчкі пра погляды ягоныя. Бо адзін упэўнены, што можна есці ўсё, а нямоглы есць гародніну. Хто есць, не прыніжай таго, хто не есць; і хто не есць, не асуджай таго, хто есць: бо Бог прыняў яго. (...) Дзеля ежы не руйнуй дзеяў Божых: усё чыстае, але дрэнна будзе чалавеку, які есць з нядобрым сумленнем" (Рым. 14, 2-4. 20).

## Зачем нужен храм?

*«Зачем мне ходить в храм, если Бог у меня в душе?»*
*Дмитрий, 23 года*

**На вопрос отвечает бр. Виктор Жук SJ, иезуит, студент 3-его курса богословия Папского Григорианского университета:**

– Евангелие и вся Библия учат о важности личного отношения с Богом каждого отдельного верующего: для Бога каждый из нас сотворен как уникальная и неповторимая личность. Иисус учит обращаться к Богу как к Отцу, который с любовью заботится о нас и даже знает сколько волос у нас на голове (Мф. 6,6; Мф. 10,30-31).

Однако в то же время общинный аспект нашей веры подчеркивается практически на каждой странице Святого Писания, и это не удивительно, если будем помнить, что человек по своей природе – существо социальное. Для Израиля индивидуум существовал только как часть избранного народа. Св. Павел, за редким исключением, обращает свои послания к общинам верующих, а не отдельным христианам, призывая к единству и взаимной любви.

Ходить в храм важно не столько ради места (хотя и оно имеет свое значение), а ради общины, которая там встречается, чтобы славить Бога и совместно переживать свою веру. «Где двое или трое соберутся во имя моё, там Я среди них», – говорит Иисус (Мф. 18,20). Не стоит забывать, что в молитве «Отче наш» все просьбы – во множественном числе. Верить «сами по себе», находясь вне Церкви, которая является мистическим Телом Христа (Кол. 1,24) и кроме прочего заботится также о правильности веры, просто невозможно. Многие из тех, кто решал интерпретировать религию по-своему, оказывался в большом заблуждении.

Кроме всего вышеперечисленного, наша вера в Бога и общение с Иисусом, Сыном Божьим, приносит радость, которой стоит делиться с другими!

## Родственные браки



*«Как относится Католическая Церковь к родственным бракам? В частности, могут ли пожениться троюродные брат и сестра?»*
*Слава, г. Витебск*

**На вопрос отвечает кс. Виктор Мисевич, Судебный викарий Витебской диоцезии:**

– Троюродные брат и сестра в Католической Церкви могут принять Таинство венчания.

Канон 1091 §2 гласит, что «По боковой линии кровного родства брак несостоятелен до четвёртого колена включительно». То есть он невозможен между родными братьями и сёстрами, а также запрещён между двоюродными братьями и сёстрами. Но следует также заметить, что брак между двоюродными братьями и сёстрами, хоть и запрещён, но для него есть возможность получить специальное разрешение (диспенсацию) у епископа. Об этом говорит канон 1078 § 1.



# ПЫТАННЕ СВЯТАРУ

## Імша за памерлых: калі?

*“Скажыце, калі ласка, чаму ў каталікоў вызначаецца менавіта трыццаты дзень пасля смерці, у які замаўляюць Св. Імшу і запрашаюць сваіх родных, а не саракавы, як у нашых братоў-праваслаўных?”*
*Марыя, 22 гады*

**На пытанне адказвае кс. Чэслаў Куцмеж SCJ, парафія св. Арханёла Міхаіла, Варапаева:**

– Навука Каталіцкага Касцёла наконт ахвяравання Імшы за памерлых у 30 альбо 40 дзень нічога не кажа. Таму можам смела сцвердзіць, што гэта проста традыцыя, якая бярэ свой пачатак з вельмі даўніх часоў і якая прыжылася сярод вернікаў.

Тут, толькі трэба сказаць, што лічбы 30 і 40 маюць сімвалічны біблійны сэнс.

У Каталіцкім Касцёле прынята традыцыя ахвяраваць Імшу за памерлых у 30 дзень пасля смерці. Гэта лічба мае біблійнае значэнне яшчэ са Старога Запавета, бо менавіта 30 дзён народ ізраільскі аплакваў Майсея, вялікага прарока, які вывеў свой народ з няволі егіпецкай і якому Бог даў Дэкалог.

У Праваслаўнай Царкве прыжылася традыцыя пасля 40 дзён, бо яна прыпамінае, што Езус Узышоў на неба пасля Уваскрасення на саракавы дзень.

Таму можна зрабіць такую выснову, што ахвяраванне св. Імшы за памерлых у 30 ці 40 дзень – гэта звычайная традыцыя, якая прыжылася сярод людзей і якая мае сваё біблійнае тлумачэнне.

Каталіцкі Касцёл навучае, што на заканчэнне зямнога жыцця чалавека чакаюць тры апошнія рэчы, а менавіта: смерць, суд Божы, неба альбо пекла. Калі душа паўстае перад Божым Абліччам, адбываецца Суд Божы (ведаем з Апакаліпсіса, што адбудзецца яшчэ адзін Суд, перад якім ужо прадстануць усе народы і пакаленні). Пасля Суда душа альбо ўжо назаўсёды з’яднаецца з Богам у Яго Валадарстве любові і супакою, альбо пойдзе на вечнае асуджэнне да пекла, бо ў часе свайго зямнога жыцця чалавек свядома адракаўся ад Бога. Таксама Касцёл кажа, што ёсць душы, якія яшчэ не зусім гатовыя адразу ўвайсці ў Божае Валадарства і таму прабываюць у чысцы, дзе яны ачышчаюцца ад сваіх заганаў і грахоў. Менавіта гэтым душам і патрэбная нашая малітва. А найбольшым дарам для іх з’яўляецца Эўхарыстыя, ахвяраваная ў іх інтэнцыі, і прыняцце св. Камуніі.

Мы як вернікі-хрысціяне павінны заўсёды памятаць пра тое, што незалежна ад дня і даты заўжды мусім маліцца за сваіх памерлых. Менавіта ў гэтым праяўляецца веліч і багацце нашай веры, бо можам дапамагчы чалавеку не толькі падчас зямнога жыцця, але і калі яго ўжо няма сярод нас. Гэтай дапамогі не можа аказаць свайму памерламу той, хто не верыць альбо не практыкуе.

Душы ў чысцы не могуць дапамагчы сабе, але вось ад нас шмат што залежыць, і яны на гэта разлічваюць. Таму варта карыстацца кожнай магчымасцю, якія дае Касцёл: ахвяраваць Імшу, адпуст, міласціну (...) у іх інтэнцыі.


кс. Чэслаў Куцмеж SCJ

## Што хаваюць у сабе казкі Андэрсана?



Яшчэ нядаўна мы перажывалі адно з самых цудоўных святаў літургічнага года – Божае Нараджэнне. Напэўна, яно з’яўляецца самым любімым для большасці людзей, і не толькі для вернікаў. Яно зачароўвае сваёй таямнічасцю і прыгажосцю, нагадвае аб цеплыні сямейнага кола, агеньчыках, святочнай ёлцы, атаясамліваецца з пахам карыцы і мандарынаў, падарункамі і, канешне, успамінамі з дзяцінства.

У такі час, мабыць, няма нічога лепшага, чым узгадаць самы бясклапотны перыяд нашага жыцця, калі многае яшчэ здавалася адлюстраваннем казак, якія чыталі нам бацькі.

У тыя часы, калі мы былі яшчэ маленькімі, многія казачныя скарбы для нас былі схаваныя, і аб іх багацці мы даведаліся толькі нядаўна. Такім скарбам з’яўляюцца творы вялікага дацкага казачніка Ганса Хрысціяна Андэрсана. Вы спытаецеся: “Чаму ж гэты скарб быў для нас схаваным? Мы з задавальненнем чыталі казкі Андэрсана”. А ці ведаеце, што ў савецкія часы яго казкі падлягалі жорсткай цэнзуры? Справа ў тым, што амаль у кожнай з іх прысутнічала забароненая тэма, а менавіта – вера ў Бога. “Снежная каралева”, “Дзікія лебедзі”, “Русалачка” – усе гэтыя казкі мелі ў сабе рэлігійны сэнс, і ў іх часта былі згадкі пра Бога, Евангелле, анёлаў, святароў, а таксама пра шматлікія хрысціянскія каштоўнасці. Пра гэтыя казкі мы пагаворым сёння.

> **У “савецкай” версіі казкі “Снежная каралева” былі выкрасленыя важныя словы**

Напрыклад, у “савецкай”, так бы мовіць, версіі казкі “Снежная каралева” былі выкрасленыя важныя словы, якія дазваляюць паглядзець на гэты твор з зусім іншага боку. На самай справе, гэтая казка вельмі глыбока прасякнута рэлігійным зместам. У ёй вучні злобнага Троля імкнуліся пасмяяцца не толькі з людзей, як напісана ў “савецкім” варыянце, але таксама з анёлаў і з Бога.

Калі Кай і Герда гулялі разам, дзяўчынка спявала хлопчыку біблійны псалом, у якім узгадвалася аб ружах. Кай, у сваю чаргу, падпяваў: “Ружы квітнеюць, хараство і краса, хутка ўбачым Дзіцятка Хрыста”. Далей Андэрсан пісаў: “Дзеці спявалі, узяўшыся за рукі, цалавалі ружы, глядзелі на яснае сонейка і размаўлялі з ім. Ім здавалася, што з Сонца на іх глядзеў сам Дзіцятка Хрыстус”. Канешне, гэтых словаў у цэнзураванай казцы не было. Калі санкі Кая імчаліся ў снежнае валадарства, ён так спужаўся, што хацеў памаліцца “Ойча наш”, але ў памяці ў яго вярцелася толькі табліца множання, – пісаў Андэрсан.

У іншым урыўку апавядаецца пра тое, як Герда ішла праз снежную завіруху ў валадарства Снежнай каралевы. Калі Герда ўбачыла перад сабой страшэнныя снежныя камякі, падобныя да вялікіх пачварных вожыкаў, стогаловых змеяў і тоўстых мядзведзікаў з узлахмачанай поўсцю, яна “пачала чытаць „Ойча наш”.

Далей Андэрсан піша: “Было так холадна, што дыханне дзяўчынкі хутка ператваралася ў густы туман. Туман гэты ўсё больш згушчаўся і згушчаўся, і вось з яго пачалі выдзяляцца маленькія, светлыя анёлкі, якія, стаўшы на зямлю, выраслі ў вялікіх грозных анёлаў са шлемамі на галовах і коп’ямі і шчытамі ў руках. Іх колькасць усё павялічвалася і павялічвалася, і калі Герда скончыла малітву, вакол яе ўтварыўся ўжо цэлы легіён.

Анёлы ўзнялі снежных пачвараў на коп’і, і тыя рассыпаліся на тысячы сняжынак. Герда магла цяпер смела ісці наперад; анёлы песцілі ёй рукі і ногі, і ёй не было ўжо так холадна. Нарэшце дзяўчынка дасягнула парогаў Снежнай каралевы”. Канешне, у цэнзураваным тэксце не было ніякага ўспаміну ні пра “Ойча наш”, ні пра анёлаў.

Зняць чары з Кая Гердзе таксама дапамагла малітва, а менавіта псалом, які яна праспявала. Нарэшце, заканчваецца казка сустрэчай з бабуляй, якая сядзела на сонейку і чытала Евангелле.

Андэрсан быў вернікам і стараўся ўключаць у свае казкі каштоўныя аспекты хрысціянскага навучання.

> **Андэрсан быў вернікам і стараўся ўключаць у свае казкі каштоўныя аспекты хрысціянскага навучання.**

Напрыклад, Русалачка марыла не толькі аб каханні прынца, але і аб бессмяротнай чалавечай душы, якая жыве нават калі цела ператвараецца ў пыл. У казцы “Дзікія лебедзі” менавіта падтрымка Бога дапамагла Элізе вытрымаць цяжкія выпрабаванні і збавіць сваіх братоў. Акрамя таго, Эліза была не толькі самай прыгожай, але і самай пабожнай дзяўчынкай у краіне. У казцы “Балотны цар” галоўная гераіня змянілася пасля сустрэчы са святаром, а чары з яе ўпалі, калі яна прамовіла імя Езуса Хрыста.

Андэрсан маляваў сваіх персанажаў кволымі і слабымі, але ў той жа час моцнымі самаахвяранай любоўю, адважнымі і рашучымі. Ён ведаў, што гэтыя якасці, нават у самых слабых фізічна людзях, нараджаюцца дзякуючы кантакту з Богам, які сам прыйшоў у свет у выглядзе бездапаможнага дзіцяці, у пячоры аднаго з правінцыйных гарадоў на ўскрайку магутнай Рымскай імперыі. Казкі Андэрсана ўтрымліваюць у сабе вялікае багацце і з’яўляюцца цудоўнай дапамогай для выхавання шляхетных якасцяў у дзяцей. Божае Нараджэнне, казачны час – чым не нагода па-новаму перачытаць знаёмыя з дзяцінства гісторыі?

*Падрыхтаваў*
***Аляксандр Панчанка,***
*catholic.by*



# ГОМЕЛЬСКАЯ КАТОЛИЧКА: «РАК – ЭТО ЛУЧШЕЕ, ЧТО БЫЛО В МОЕЙ ЖИЗНИ»



**«ДО БОЛЕЗНИ Я ЖИЛА СВОЕЙ ЖИЗНЬЮ, И ТОГДА КАЗАЛОСЬ, ЧТО ОНА ТОЛЬКО НАЧИНАЕТСЯ: НОВЫЕ ВОЗМОЖНОСТИ, НОВЫЕ ПЕРСПЕКТИВЫ», – КРИСТИНА С УЛЫБКОЙ ВСПОМИНАЕТ О СОВСЕМ НЕДАВНИХ СОБЫТИЯХ.**

Молодая, красивая, талантливая девушка окончила Гомельское государственное художественное училище, встретила свою любовь. Мир открывал новые возможности в личной и творческой жизни. Неожиданная, но очень желанная и романтичная свадьба. Поступление в Витебский государственный университет им. Машерова на художественно-графический факультет. Медовый месяц и свадебное путешествие на море...

Все было здорово, и казалось, ничто не может омрачить этого счастья...

## КАЗАЛОСЬ БЫ, ПРОСТО ПРОСТУДА...

– Прошла зимняя сессия, и по приезду домой я просто простыла, как это бывает в поездках, – рассказывает девушка. – К доктору не обращалась. Весь апрель сильно кашляла, но к врачу так и не пошла. Теперь считаю, что малейший кашель надо проверять на флюрографе.

Поход в поликлинику постоянно откладывался. И только когда у девушки началась сильнейшая, как у старой бабушки, одышка, когда начала задыхаться по ночам, пропал сон и начались сильные боли под лопаткой, она все же решилась обратиться к медикам.

На снимке легких врачи обнаружили большое пятно. Тогда с подозрением на пневмонию ее госпитализировали. Но в больнице диагноз не подтвердился. Поставили другой – «большое количество скопленной жидкости в легких и сердце, то есть – обширный левосторонний плеврит и перекардит». Две недели девушку лечили с помощью гормональной терапии и капельниц.

– Жидкость ушла, но, как позже оказалось, ненадолго, – приводит факты из истории болезни Кристина. – Знаете, больше всего удивляет и поражает уровень компетентности врачей... Меня выписали со словами: «Мы не смогли обнаружить этиологию вашего заболевания». И это притом, что каждый день брали кучу анализов. Обычно плеврит и перекардит являются вторичными заболеваниями на фоне более опасного и серьезного.

## КАКОВ ДИАГНОЗ?

На июньскую сессию девушка уже не попала. Купила билеты в Витебск. Но до отъезда решила сделать контрольное УЗИ сердца. Результаты выявили серьезные отклонения.

Кристину обследовали лучшие кардиологи города. И в кардиологическом диспансере, не желая огорчать прежде времени, осторожно предупредили, что, скорее всего, это либо онкология, либо сбой иммунной системы.

Бесконечные консультации, поездки в больницы, диспансеры... В тубкбольнице пульмонолог заверила, что с легкими все в порядке. И отправила обратно к кардиологам, предположив порок сердца. Оттуда – снова направление в тубкбольницу для прохождения компьютерной томографии.

Через несколько дней обследование выявило злокачественную опухоль.

– Первые чувства?.. Пустота, тишина, шок. А еще – какое-то необъяснимое, абсолютное спокойствие, – описывает свое состояние Кристина. – И только когда подъезжала к онкодиспансеру, позвонила лучшей подруге, чтобы попрощаться. Сказала ей, что была рада нашему знакомству, и всему тому, что у нас было, а в конце добавила, что серьезно больна и думаю, что это конец.

А вот в онкологии уже начался страх. Сильнейший страх! Врачи без особых эмоций, успокаивая, говорили, что все, возможно, не так и страшно.

Но для девушки это было самое страшное и ужасное время. Бесконечные анализы, мини-операции, компьютерная томография.

Именно в этот период она испытала страх и за свою молодую семью. Ведь они совсем недавно поженились: казалось, жить и жить. В смятенье эмоций Кристине хотелось расстаться, и в то же время она боялась, что бросят ее. Хотя никаких предпосылок к этому не было. Напротив, семья всегда была рядом и во всем поддерживала. Чуткий муж, прекрасные свекры, которые стали настоящими вторыми родителями...

Не все анализы проходили удачно. Одна из таких процедур едва не оборвала хрупкую нить жизни.

– В тот момент я не могла дышать и не хотела возвращаться, – признается Кристина. – Возможно, прозвучит как-то мистически, но мне казалось, что я тону, будто погружаюсь на дно озера, все глубже и глубже. И так хотелось, чтобы скорее все закончилось... А потом вдруг подумала о муже... Начала водить пальцем по обручальному кольцу и думать: «мы же так молоды...» . И еще в этот момент я вдруг услышала смех наших будущих дочек...



Только тогда я начала пытаться дышать, и постепенно все пришло в норму.

Снова мучительно долгий период диагностирования, бесконечные ожидания в очередях на химиотерапию. В августе 2012 года Кристина прошла срочное обследование в научном институте им. Александрова в Боровлянах. Здесь же сделали операции. Но ее состояние ухудшалось.

– Как только наконец поставили точный диагноз, меня перевели из торрокального отделения в отделение интенсивных методов противоопухолевого лечения, – Кристина листает в памяти страницы самых страшных дней в ее жизни. – Там я встретилась со своим лечащим врачом, который подробно описал схему лечения. Я была в ужасе...

## ПРОТОКОЛ ЛЕЧЕНИЯ

Все лечение представлено в виде протоколов. Первый протокол составляет 64 дня непрерывной госпитализации, затем – «отдых» в 2 недели, следующий – протокол «М» – составляет 8 недель. И завершающий – такой же, как и первый.

Даже в теории лечение ожидалось очень тяжелым и долгим. На практике все оказалось еще сложнее. Эти моменты девушка помнит наизусть:

– Препараты химиотерапии – это, естественно, яды и сильные токсические вещества, которые убивают не только раковые, но и здоровые клетки. К счастью, здоровые впоследствии способны восстанавливаться. Но все равно было очень тяжело и страшно. Вдали от дома, от родных и близких, одна – наедине со своей болезнью и болью...

В первые полмесяца мне стало намного легче, но потом все пошло наоборот. Врач сразу предупредила об опасности лечения, но также отметила, что, несмотря на риск, оно того стоит.

Вводимые препараты могли вызвать осложнения в работе печени и поджелудочной железы, поэтому приходилось соблюдать жесткую диету. Но, несмотря на это, в конце курса печень все же дала сбой. Пришлось делать перерыв, чтобы восстановить ее. В течение курса постоянно возникали проблемы с анализами, делались переливания плазмы, крови и тромбоцитов...

– Постоянно чувствовала себя очень плохо. Иногда действительно, казалось, Бог покинул меня, и я блуждаю по всем семи кругам ада! Самым ужасным было время, когда от химиотерапии пропал сон на семь суток. Я просто начала сходить с ума. Чуть позже отказали ноги. Постоянно испытывала невыносимые боли, которые не снимали никакие обезболивающие. Врачи говорят, что это был период «ломки» от гормонов и осложнений. Казалось, эта боль длилась вечно.

## ОЗАРЕНИЕ

Но потом в какой-то момент пришло озарение... Прошли мысли о плохом, негатив начал трансформироваться в новое мироощущение.

– Раньше я была депрессивным, мрачным и замкнутым человеком, – признается девушка. – Теперь у меня появилась сильнейшая тяга к жизни. Я пересмотрела все свои прежние взгляды, простила многих, кто причинял мне обиды. И теперь желаю всем осознать, что некоторые люди очень слабые, поэтому надо уметь их прощать. Понимаю, что мир вокруг остался прежним, но теперь я смотрю на него абсолютно новыми глазами. Не знаю, поймет ли кто-нибудь... Но рак – это лучшее, что было в моей жизни. Как бы парадоксально и дико это ни звучало. Очень помог просмотр документального фильма-проекта Катерины Гордеевой «Победить рак». Особенно впечатлило и вдохновило интервью Льва Бруни. Всем, кто окажется или оказался на моем месте, я желаю просто жить!.. Наслаждаться каждым днем. Рак – это не наказание, не приговор, он просто есть, он – судьба.

# РЕБЁНОК И КОМПЬЮТЕР

**Я не ошибусь, если скажу, что почти у каждого из нас в доме есть компьютер. С помощью компьютера мы можем почитать новости, выйдя в интернет, посмотреть фильм на свой выбор и без рекламы, а ещё использовать как «няньку» для наших детей. Ребёнок под присмотром такой «няньки» сидит и тихонько стучит по клавиатуре, никого не беспокоя, никому не мешая. Вот только результат от такого воспитания и сидения не всегда позитивный и полезный.**

**Юрий Романюк**, *психолог*



Дорогие родители, давайте зададим себе вопрос: что же привлекает наших детей в этом «ящике»? А привлекает их красивая динамичная картинка на экране монитора, возможность быть героем, который бессмертен. В реальной жизни процессы, которые регулируют деятельность, отличаются от тех, которые присутствуют в виртуальной реальности. Приведу маленький пример о восприятии из книги Байрон Ривес «Медиа и люди»: «На экране изображена коробка с попкорном, которая лежит на столе. С неё выпало очень много зёрнышек. Взрослый, рассматривая это, вместе с ребёнком дошкольного возраста задаёт вопрос: «Что случится с попкорном, когда переверну телевизор вверх ногами?» Много детей отвечает, что с коробки высыплются остатки попкорна. Дети часто воспринимают телевизор как реальность».

Как видим, маленькие дети не в состоянии провести чёткую грань между картинкой на экране монитора и реальной жизнью, между вымыслом и правдой. Окунаясь в мир виртуальной реальности на короткое время, ребёнок даёт добро на то, чтобы эта реальность стала его. И опыт, полученный им в игре, формирует жизненные установки и ценности. Мир монитора для ребёнка намного красочней обычной жизни, динамика развития событий намного быстрее, и самое главное, чтобы стать героем, можно сколько хочешь раз переигрывать сценарий, не затрачивая на это огромных усилий. Чем глубже ребёнок погружается в виртуальный мир, тем больше у него пропадает желание удивляться и постигать окружающий мир. Любознательность такого ребёнка меняется на клик мышки. Ведь, чтобы найти необходимую информацию, достаточно лишь вписать запрос в поисковике – и ответ готов, без усилий, не напрягаясь ни физически, ни интеллектуально. В результате у ребёнка пропадает желание познавать красоту мира и суть вещей. А внутренний мир начинает заполняться суррогатными эмоциями и чувствами.

Можно ли противостоять тому, что так сильно притягивает? Как защитить своего ребёнка от негативного воздействия, научив его с пользой для себя изучать технику? Ведь телевизор, компьютер – это просто вещи, и они не могут быть хорошими или плохими. Всё зависит от того, как ими пользуются. Я думаю, что существует тонкая грань между зависимостью и увлечённостью. Ребенок, который без проблем нажимает кнопку «выключить» для того, чтобы сделать уроки, помочь родителям, поиграть в футбол с друзьями – не вызывает беспокойства. Можно сказать, что такой ребёнок использует компьютер по назначению и воспринимает его как инструмент. А вот ребёнок, который «с головой уходит» в игрушку, не замечая времени, голода, напоминаний, которого невозможно оторвать от компьютера без скандала – вызывает огромные опасения. И здесь родителям нужно очень быстро среагировать и вмешаться. И чем раньше, тем лучше. Сразу хочу заметить, что доверительные отношения служат тем барьером, который может сдерживать развитие такой зависимости. Замечено, что дети тех родителей, у которых не хватает времени на них, не хватает внимания и душевной теплоты, попадают в сети Интернета, ища там поддержку и понимание.

Как увидеть, что вашему ребёнку нужна помощь, чтобы выйти из Интернета, как увидеть опасные симптомы? Психологи обращают внимание на следующие изменения в поведении ребенка, у которого начинает развиваться компьютерная зависимость:

1. Ребёнок не способен установить временные рамки окончания сеанса игры или работы за компьютером;
2. Чрезмерное удовольствие от игры, которое не наблюдается в реальной жизни;
3. Отказ от еды, сна других важных потребностей во имя игры и посиделок перед монитором;
4. Ребёнок проявляет раздражение, когда его отвлекают от компьютера;
5. Ребёнок стал замкнутым или проявляет немотивированную агрессию.

Что делать, когда вы увидели эти симптомы у своего ребёнка? Начало решения проблемы лежит в доверительном диалоге. Выскажите свою позицию по поводу компьютера, объясните, что вызывает ваше беспокойство и чем может грозить чрезмерное увлечение компьютерными играми. Крик и запрет ничего не дадут, так как ребёнок, затаив обиду, начнёт искать, где он может поиграть, обманывая вас и затягивая время на решение проблемы. Ещё есть вариант отвлечь ребёнка от компьютера, направив его времяпровождение на спорт, танцы, музыку и т.д. Не забывайте, что время должно строго регламентироваться: дети до 12 лет могут играть в игры не более 20 минут в день, подростки – не более двух часов с перерывами. Если будут использованы все способы, а ребёнок продолжает увлекаться компьютерными играми, обратитесь к специалисту.

## ГОМЕЛЬСКАЯ КАТОЛИЧКА: «РАК – ЭТО ЛУЧШЕЕ, ЧТО БЫЛО В МОЕЙ ЖИЗНИ»



### ЧЕЛОВЕК МОЖЕТ ВСЁ!

Наша героиня научилась жить в постоянной борьбе. Более того, ее творческая натура находится в постоянном поиске. Кристина нашла способ отразить ужас происходящего через прекрасные образы. Ее снимки очень впечатляют. Они одновременно шокируют, манят, поражают, заставляют думать, сопереживать, пробуждают желание жить.

– Идеей о том, чтобы сделать фотосессию, я загорелась сразу после того, как пришлось побрить голову, – рассказывает она историю снимков, которые вы видите перед собой. – Хотя сама мысль приходила и раньше. Планировала фотографироваться после первой химиотерапии, и уже тогда подыскивала фотографа. В итоге выбрала Валеру Близнюка. Просмотрев его работы, поняла, что у нас много общего в видении образов. Он оказался очень чутким и тоже загорелся. Так родилась наша фотосессия. Это был сильный контакт, понимание. Сейчас мы с Валерой друзья. И я думаю, это не последний проект. У меня вообще много планов и желаний, которые, непременно осуществятся. Потому что человек может все! Теперь я это знаю точно.

...Сейчас девушка проходит последний на данном этапе курс химиотерапии. Позже ей предстоят облучение головного мозга и еще полтора года борьбы с болезнью. В середине весны Кристина собирается пройти реабилитацию за городом, наедине с природой. Чтобы восстановиться и набраться жизненных сил…

От имени всех нас и наших читателей хочется пожелать этой хрупкой, изящной и одновременно сильной, мужественной девушке скорейшего выздоровления и множества новых творческих идей, на воплощение которых нужна целая жизнь. И она у нее непременно будет. Потому что эта девушка сможет все!

*Подготовили*
***Олеся ЖЕЛЕЗНЯКОВА***
***Мария РИКУНОВА***
***Фото Валерия БЛИЗНЮКА***
*«Новый Вечерний Гомель»*

*От редакции Гомельского католического портала: Кристина уже много лет является прихожанкой гомельского костела и говорит, что принять болезнь ей помог именно Господь.*

*www.gomel.catholic.by*

# Мама не убийца!



За 2012 год белорусов стало меньше на 4,5 тыс. человек. По данным Национального статистического комитета, на 1 декабря 2012 года население Беларуси составило 9 млн. 460 тыс. человек, уменьшившись с января до декабря на 4,5 тыс. Представители Белстата отметили также, что в стране продолжает увеличиваться количество разводов и уменьшается число браков.

За 11 месяцев 2012 года в Беларуси зафиксировано 492 развода на 1000 браков (год назад за такой же период было 419).

**Не убий!**

Со мной в палате в ожидании аборта лежали еще две женщины. Сначала оперировали несостоявшихся мам из другой палаты. Нам только слышно было, как ездит по коридору каталка. Скрежет колес по кафелю раздавался через каждые пять минут – работа конвейера смерти была налажена четко, и все происходило очень быстро.

Вот стали вызывать из нашей палаты. Пока ждала своей очереди, я наблюдала, как привозили назад абортированных женщин, перекладывали на кровать, клали на живот пакет со льдом, накрывали одеялом… И во мне поднимался ужас. Нет, это был не страх в предчувствии боли или чего-то другого, а именно ужас от того, как обыденно совершаются убийства на моих глазах.

**Я поднялась, перешла коридор и, войдя в операционную, прежде чем лечь на стол, перекрестилась.**

Позвали меня. Я поднялась, перешла коридор и, войдя в операционную, прежде чем лечь на стол, перекрестилась. Врач, с удивлением взглянув на меня, отвернулась и стала готовить инструмент.

**«Я не хочу», – вот и все, что я смогла объяснить, когда врач уже повернулась ко мне, держа в руках блестящие щипцы.**

Медсестра подошла, чтобы сделать наркоз, но тут вдруг всю меня затрясло. Я так задрожала всем телом, что оно, казалось, билось о поверхность кресла, на котором лежала.

Медсестра, очевидно, видавшая всякое, спросила, что со мной. Ей явно было не до разговоров, так как она продолжала готовить инструменты.

И тут я поняла, я все поняла! Я поняла, что никогда, ни за что, ни при каких обстоятельствах, как бы ни сложилась жизнь, не смогу убить своего ребенка.

«Я не хочу», – вот и все, что я смогла объяснить, когда врач уже повернулась ко мне, держа в руках блестящие щипцы.

Я пришла в ужас: еще через мгновение мне сделают наркоз, и тогда уже ничего нельзя будет изменить. Но я успела! Мне казалось, я кричу на всю операционную: «Нет, я не буду!», а на самом деле едва слышно шептала, словно скованная страхом...

Я вернулась в палату и разрыдалась. Разрыдалась от счастья, что мой ребенок остался со мной, что он во мне и благодарен, что я его не убила.

Плакала я и обо всех тех, кто не смог спасти своего малыша: о тех женщинах, что были вместе со мной в палате, о тех, кто был раньше меня и будет здесь потом.

И тут в палате началась настоящая истерика. Сделавшие аборт вслед за мной принялись громко плакать. Соседка Люся причитала: «Господи, даже если Ты простишь меня, я же никогда себе этого не прощу!».

**Сделавшие аборт вслед за мной принялись громко плакать.**

Как-то особенно надрывно закричала Светлана, которую только что привезли. Наркоз у нее уже проходил, она была в сознании, но пока еще не полностью. И тут прорвалось то, что она пыталась скрыть от самой себя. Она умоляла вернуть ей ее ребенка, металась по кровати, порывалась встать и идти за ним. На самом деле он был нужен ей, но, подчинившись ложным представлениям о том, что правильно, а что неправильно в этой жизни, что важно, а что может подождать, она лишилась его. И теперь вот не могла себе этого простить.

В палату торопливо вошла медсестра и, глядя на нас широко раскрытыми глазами, молча опустилась на стул. Облокотившись на спинку, она тоже стала плакать.

«Я-то ведь вижу их живыми, беру в руки тельца окровавленные, сердце всегда сжимается от боли, а сама сделала два аборта», – сокрушенно рыдала она.

Наша общая скорбь длилась минут десять. И это, наверное, было самое жуткое, что я видела в жизни: плач матерей по убитым своим детям.

Потом все стали постепенно успокаиваться, каждая постаралась взять себя в руки. Смотреть друг на дружку не хотелось. Кто-то лежал, отвернувшись к стене, кто-то торопливо стал собираться на выход и, не прощаясь, вышел. Мне тоже хотелось поскорее уйти.

Только оказавшись на улице, я вздохнула полной грудью. Было ощущение, что меня вдруг освободили из камеры смертников.

...Теперь моему малышу уже пять месяцев. Он умеет переворачиваться со спинки на животик и пробует садиться. Если вам это покажется слишком простым действием, то должна вас уверить: для такого малыша это серьезные достижения.

И, наверное, я люблю этого малыша немножко больше остальных своих детей, потому что он не дал мне забыть о моем предназначении на земле и смысл Заповеди Божией «Не убий!». Если бы я тогда совершила тот страшный грех, то как бы могла после этого называть себя мамой? Ведь слова «мама» и «убийца» несовместимы.

*Ксения КЛЕЦКО, г. Минск*
*«Новогрудские епархиальные ведомости»*

# ПАТРЭБНА ДАПАМОГА!



Нядаўна валанцёры "Caritas" Віцебскай дыяцэзіі пабывалі ў гасцях у Сяргея Данчанкі. Жыве ён разам з маці ў шматпавярховым доме недалёка ад тэлезавода. Сяргею 34 гады, ён інвалід I групы, пакутуе на дзіцячы цэлебральны параліч.

Перамяшчаецца Сяргей толькі ў інвалідным вазку і большую частку жыцця праводзіць сярод бетонных плітаў кватэрных сцен. Ён вельмі любіць бываць на дварэ, вельмі любіць знаёміцца з новымі людзьмі. Але для гэтага ёсць пэўныя перашкоды, галоўная з якіх тое, што мама Сяргея адна не можа вывезці яго нават з пад'езда. Сям'я просіць усіх неабыякавых людзей аказаць дапамогу ў арганізацыі прагулак на свежым паветры. Даведкі па тэлефоне: +375 (212) 25-29-31 (Дзмітрый).

**Калі вы жадаеце аказаць Сяргею матэрыяльную падтрымку, можаце пералічыць сродкі на наш рахунак:**

**Р/р: 3015202580010**
**ОАО "Тэхнабанк" Рэгіянальнае ўпраўленне № 2 (г. Віцебск)**
**210601, г. Віцебск, вул. Чапаева, 16**
**БІК: 153001182**
**УНП: 300721049**

**Важна!**

У прызначэнні плацяжу ўказвайце: дабрачыннае ахвяраванне для Сяргея Данчанкі.

# ПАМЯЦІ СВЯТАРА



**9 мая 2013 года споўніцца год з дня смерці ксяндза каноніка Уладыслава Пятрайціса. Таму я хачу падзяліцца сваімі ўспамінамі.**

Летам 1987 года, калі ехала ў Віцебск, я апынулася ў адным вагоне са святаром Уладыславам Пятрайцісам. Падчас нашага сумеснага шляху ксёндз спытаў у мяне:"Як паставяцца мясцовыя людзі да пілігрымкі ў Будслаў?" А ў 1992 годзе ён павёў першую пілігрымку з Мёраў у Будслаў, зайшоў з ёй і ў нашу парафію святога Язафата ў вёсцы Канстанцінава Глыбоцкага дэканата. За гэта мясцовыя вернікі ўдзячныя Богу і кс. Уладыславу.

Святар Пятрайціс унёс значны ўклад у папулярызацыю Імшы на беларускай мове. Ён памятаў пра славянскі першадрук – "Псалтыр" Францыска Скарыны.

У снежні 2011 года кс. Уладыслаў праводзіў рэкалекцыі ў нашым касцёле. Быў вельмі задаволены адчуваннем значнага асабістага ўкладу ў прызнанні беларускай малітвы. Радаваўся з нагоды асвячэння ў Ерусаліме таблічкі з малітвай "Ойча наш" на беларускай мове. Але гаварыў мне, што заўсёды хвалюецца праз сваю Радзіму – Літву.

Не магу забыць момант, калі ў час нашай першай размовы кс. Уладыслаў запытаў пра мае асабістыя адносіны да веры. Я адказала:" Памятаю, што душа чалавека несмяротная".

3 мая 2012 года па май 2013-га ў нашым касцёле кожны дзявяты дзень месяца адпраўляецца святая Імша за памерлага ксяндза Уладыслава Пятрайціса.

*Верніца Вольга Пяткевіч*

*Ложь – удел раба, свободным же людям подобает говорить голую правду.*
*Апполоний*

# Почему люди врут?

**Почему люди врут? Слово «лгать» по латыни означает то же самое, что «идти против совести». Мишель Монтень пишет, что между выражениями «говорить ложно» и «лгать» есть существенное различие». Говорить ложно» – значит, говорить вещи, которые не соответствуют истине, но, тем не менее, воспринимаются говорящим как истинные. А «лгать» – это говорить одно, а про себя знать совершенно другое.**

**Еще античные философы пытались дать определение и рассуждать на тему лжи и обмана. Почему люди лгут?**

**Сегодня я постараюсь сделать маленький обзор психологических причин, которые толкают человека на ложь.**

■ **Юрий Романюк**, *психолог*

### Ложь как компонент психологической защиты личности

Причины лжи в этом случае различны.

■ Страх. Когда человек по какой-то причине боится сказать правду. Несовершенство – трусость.

■ Желание избежать эмоционально неприятной ситуации. Каждый человек способен предвидеть реакцию окружающих на свои действия и поступки. И так как у каждого человека свои представления о мире, нравственности, морали, добре, справедливости и пр., более гибкий подстраивается под нормы другого человека, не принимая их. Например, муж уверен, что отдавать соседям на время бытовые предметы не следует. Жена считает, что отказать соседям в просьбе одолжить эти предметы нетично и, следовательно, для нее неприемлемо. Отдавая предмет, она всегда оказывается в ситуации выбора: быть плохой женой в представлении мужа или быть плохим человеком в глазах соседей и своих собственных. И женщина находит выход: не ставить мужа в известность о своих действиях. Так же поступают дети, пряча дневник с плохой оценкой.

### Ложь как вредная привычка

Любая привычка формируется под влиянием внешних факторов и внутренних позитивных ощущений. Когда человек что-то делает впервые, окружающие его люди высказывают одобрение или неодобрение по поводу этого поступка. И если за высказанною впервые ложью следует одобрение близких, то человек усваивает урок. В детстве привычки вырабатываются после одного-двух пробных «уроков». *«Ложь – тот же алкоголизм. Лгуны лгут и умирая»* (А. Чехов).

### Ложь как проявление характера

Существует несколько типов характера личности, для которых ложь является показательной. Когда доминирующей потребностью характера человека является потребность быть в центре внимания. Если вдруг человек чувствует недостаток внимания к своей персоне, то он добьется этого внимания любой ценой. Ложь часто оказывается наиболее доступной.

### Ложь как средство достижения определенной материальной цели

Многие люди хотели бы обладать определенным объектом, благом и т.д. И ускорить этот процесс помогает ложь. Например, чтобы занять определенную должность, человек приписывает себе качества, которыми не обладает, явно преувеличивает собственные заслуги, принижает значимость других. К разновидностям данного типа лжи можно отнести лесть как способ достижения цели.

### Ложь как проявление несовершенства личности

*«Ложь – порождение злобы, трусости и тщеславия»* (Ф. Честерфилд)

В этом случае ложь связана с завистью. Завистникам приходиться очень тяжело, потому что их эмоциональное состояние зависит не только от собственных удач и неудач, но и от успехов других. Чаще всего зависть поражает людей честолюбивых, амбициозных, не лишенных творческого воображения, но, к сожалению, не столько талантливых, сколько стремящихся доказать, что они выдающиеся личности, продемонстрировать какие-то свои способности окружающим.

Человек стремится ввести в заблуждение общество относительно собственной личности, приписывая себе те качества, которыми он на самом деле не обладает. Для того чтобы стать кем-то, нужно очень много работать над собой, совершенствоваться. Но есть и иной путь: можно солгать другим и самому себе в отношении собственных способностей и возможностей. Таким образом, ложь неприятна и вредна не только сама по себе. Она подобна ржавчине, которая разъедает личность. И о совершенствовании личности мы можем говорить тогда, когда человек не просто перестал лгать, а избавился от причины, породившей лживость.

***Немножко статистики:***

*По статистике в обычном общении взрослых людей недостоверная информация, сознательное утаивание информации составляет 25%*

*При общении по телефону процент увеличивается до 40.*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**24 сакавіка. Вербніца — Лк 19, 28-40**

Езус-Збаўца, Які прыносіць супакой, садзіцца на асла і ўрачыста ўязджае ў Ерусалім. Натоўп радаснымі крыкамі славіць Бога. Фарысеі, сэрцы і думкі якіх былі звязаны іх малым чалавечым разуменнем Божых спраў, хочуць, каб Езус забараніў людзям крычаць. Езус даводзіць ім, што гэта важная хвіліна ў справе збаўлення. Пан прыходзіць збавіць свой народ. І нават каменне, калі будзе патрэба, будзе Яго славіць. Пазней, стоячы сярод поўнага надзей народу, Езус заплакаў. Заплакаў ад таго, што Яго місія супакою праз веру будзе адкінута. А наступствы гэтага адкідвання сімвалічна ўяўляюць сабой Ерусалім, які будзе разбураны акупантамі.

*– Ці ведаю і ці памятаю пра тое, што Езус – Валадар усяго свету?*

*– Ці памятаю пра гэта нават і тады, калі іду сваёй крыжовай дарогай?*

*– Ці запрашаю Бога з радасцю ў сваё жыццё?*

*– Ці дазваляю Яму прыносіць супакой, як Ён хоча?*

*– А можа, я – фарысей і школю Бога за тое, што Ён не так кіруе маім сэрцам?*

*– Ці разумею, што будаванне Божага Валадарства ў маім сэрцы – гэта пастаяннае схілянне майго сэрца перад Божымі планамі і Божай мудрасцю?*

*– Ці разумею, што ад таго, як прыму Бога да свайго сэрца, залежыць мая будучыня?*

*– Ці разумею, што, калі не заўважу час наведвання Езуса, маё жыццё разбурыцца дашчэнту?*

*– Ці перажываю, што адкідваю Божую любоў сам або калі бачу, як гэта робяць іншыя людзі?*

*– Што раблю, каб прыняць Езуса?*

**31 сакавіка. Вялікдзень — Ян 20, 1-9**

Пустая грабніца, нягледзячы на прадказанні Езуса, з'яўляецца для вучняў незразумелай. Ян увайшоў у грабніцу, убачыў адкінутыя палотны і паверыў. Бо бачыў тое, што адбываецца, з Божай перспектывы, якая перарастае звыклае, чалавечае бачанне рэчаіснасці. Мы, абдараваныя дарамі Святога Духа, маем мудрасць, якая дазваляе нам паглядзець на Божыя справы так, як гэтага хоча Бог. Змёртвыхпаўстанне Езуса ўплывае на Усё. Гэта дзень Езусавай перамогі. Пераможаныя дзве найбольшыя людскія бяды, перад якімі чалавек адчуваў сябе безабаронным і бездапаможным. Хрыстус перамагае смерць і грэх. Без Змёртвыхпаўстання Хрыста наша вера была б дарэмнай. Ідучы па жыцці, нельга ні на хвіліну забываць, што Хрыстус – гэта Ягня-Пераможца.

*– Што думаю пра жыццё і вечнасць?*

*– Ці згодны мой светапогляд з навукай Хрыста?*

*– А можа, у некаторых справах маю свецкі погляд, які не лічыцца з навукай Хрыста?*

*– Ці адкрыты на Божыя натхненні ў сваіх духоўных справах?*

*– А можа, маю свой план і ўсё, што яго перарастае, адкідаю? Нават калі гэта Божая воля?*

*– Ці аддаю свой грэх і сваю смерць у рукі Пана Езуса?*

*– А можа, спрабую сам з гэтым нешта зрабіць?*

*– Можа, уцякаю ад праўды пра сябе?*

*– Можа, спрабую шукаць фальшывай справядлівасці або шукаю грэх там, дзе няма?*

*– Можа, звяртаюся да гараскопаў, бабулек, чараў?*

*– Ці дазваляю Змёртвыхпаўсталаму Езусу вучыць мяне любові і адарыць паўнатой жыцця?*

*– У чым гэта праяўляецца?*

*– Ці давяраю Яму?*

*– Ці паслухмяны Яму?*

*– Ці жыву як чалавек, што з'яўляецца вучнем Змёртвыхпаўсталага Езуса?*

*– Ці гляджу на жыццёвыя справы з Яго пункту гледжання?*

**7 красавіка 2013 г. — Ян 20, 19-31**

Змёртвыхпаўсталы Езус прыносіць сваім вучням надзею на ўваскрашэнне. Ён, Які перамог грэх , пасылае сваіх вучняў, каб працягвалі Яго справу. З дапамогай Святога Духа вучні будуць рэалізоўваць справу збаўлення, якую распачаў Езус, праз адпусканне грахоў. Прабітыя рукі, ногі і бок Езуса разглядваем як Тумаш. І ўзіраючыся ў абраз Езуса Міласэрнага, хочам укласці свае пальцы ў Яго сэрца, каб захапіцца Яго міласэрнай любоўю. Езус клапоціцца пра тое, каб Тумаш паверыў. Заахвочвае, каб той прыглядзеўся да Яго ранаў. І Тумаш паверыў. Хрысціяне ва ўсе вякі, узіраючыся ў параненага, але змёртвыхпаўсталага Езуса, павінны паверыць у Яго міласэрную любоў. Для кожнага хрысціяніна асабістым вызнаннем веры з'яўляюцца словы: "Езу, давяраю Табе".

*– Ці з'яўляецца для мяне асабіста змёртвыхпаўстанне Езуса важнай падзеяй?*

*– Ці веру ў Божую міласэрнасць?*

*– Ці веру, што Ён мае ўладу перамагчы мой грэх?*

*– Ці веру, што Ён мае ўладу прабачаць грахі іншым?*

*– Ці ведаю, што пакліканы да сведчання пра перамогу Езуса над грэхам, г. зн. пра Божую міласэрнасць?*

*– Што я раблю, калі знемагаю пад ярмом грэху або калі мне цяжка прабачыць сабе і іншым?*

*– Ці ўзіраюся ў прабітае сэрца Езуса?*

*– Ці давяраю Езусу аднолькава і калі мае справы ідуць добра, і калі не?*

*– Ці памятаю ў час барацьбы з грэхам, што гэта Езус і Яго дасканаласць – крыніца майго жыцця?*

*– А можа, разлічваю толькі на свае сілы ў барацьбе з грэхам?*

*– Ці памятаю, што гэта Святы Дух адпускае грахі і лечыць хворае сэрца?*

*– Ці давяраю Богу, Які дзейнічае ўва мне і ў іншых?*

**14 красавіка 2013 г. — Ян 21, 1-19**

Езус чувае над Сваімі вучнямі. І чувае над Сваім Касцёлам. Калі паверылі Яго Слову, улоў быў казачна Вялікі. У Святым Касцёле, калі ён жыве паводле Слова Пана, адбываюцца цудоўныя рэчы. Ян дзякуючы сваёй духоўнай уражлівасці спазнаў, што Езус прысутны паміж імі. Езус асабіста будуе супольнасць першага Касцёла. Ён прабачае Пятру адрачэнне. Ён таксама пытаецца пра тое, што з'яўляецца сутнасцю місіі пастыра і вучня – пытаецца пра любоў. Ён прызначае Пятра пастырам Сваёй аўчарні. Не таму, што той заслужыў ці бязгрэшны, але таму, што гэта Яго воля. Езус кліча за сабой.

*– Ці памятаю ў штодзённых справах, што Езус са мной і з усім касцёлам?*

*– А можа, будую сваё сэрца, якое з'яўляецца Божым Валадарствам, паводле свайго разумення?*

*– Ці гатовы рабіць тое, што хоча Бог, у справах, у якіх добра разбіраюся?*

*– Ці бачу Божыя справы ў сваім сэрцы, у Касцёле і вакол мяне?*

*– Ці іду са сваімі слабасцямі да Езуса?*

*– Ці стараюся любіць так, як Ён хоча?*

*– А можа, мой галоўны клопат – маскіроўка і змяншэнне грэху?*

*– Ці памятаю, што Бог мае для мяне Свой план?*

*– Ці памятаю, што Бог любіць мяне такім, якім я ёсць?*

*– Ці хачу ісці за Ім і рабіць тое, што Ён хоча?*

*– Што для гэтага раблю?*

Рубрыку вядзе **кс. Павел Кнурэк**

# РЫЖЫКІ альбо Як мой муж у касцёл хадзіў



Муж мой – чалавек, які, можа, і не зусім не верыць, але цалкам антырэлігійны дый яшчэ і праваслаўны (паводле хросту). То наогул "крычонцы-крычонцы", кожную ж хвіліну крычыць без дай прычыны – ну, што тут зробіш?! Вось усе мае амаль 8 гадоў у касцёле ён так крыкам і крычыць, чаго я туды іду. Але аднойчы, у верасні, мела я гэткае здарэнне…

Паехалі мы з ім у Ліду да маёй матулі. Па дарозе захацелася яму заехаць у лес па грыбы. Добра, заехалі. У яго ў машыне ёсць боты гумовыя, а я – так сабе, у лапціках нейкіх, дый наогул грыбнік я аніякі. То ён мне і кажа: "Не лезь у лес, прамокнеш уся, пахадзі вось тут, на ўскрайку, тут павінны рыжыкі быць". А ён гэтыя рыжыкі любіць! – аж трасецца! "То, – кажа, – як ты знойдзеш хоць пяць рыжыкаў… – (пачымхаў у патыліцы: чым жа адудзячыць мне за гэткае шчасце?!), – то я з табою ў касцёл пайду!"

Ну, пачала я поўзаць па маладым сасонніччу. Адныя масляк і тыя чарвівыя! Пахадзіла-пахадзіла з паўгадзінкі – дый успомніла, як адна бабуля на будслаўскім шляху мне расказвала, што яна, як грыбы-ягады шукае, просіць дапамогі ў св. Антонія. Ну, то й я кажу: "Сьвяты Антонейку, не губляла я гэтых грыбоў, можа, наогул ужо нічога ў жыцці не шукаю, можа, усё ўжо знайшла, але дапамажы ты мне знайсці гэтых рыжыкаў!"

Праз пяць хвілінак – гопа! – рыжык! Тады яшчэ два! Тры! Яшчэ і яшчэ! Дванаццаць рыжыкаў мой здабытак. Прыйшоў мой "крычонцы", кажу, глянь – ажно на два візіты ў касцёл маю табе рыжыкаў! О то ж лаяўся! Кажа: "Яны чарвівыя!" Добра, два скасавалі, але ж усё роўна болей, як на адзін паход засталося. Скрыпеў-скрыпеў, трэба прывыкнуць, кажа, да гэтай думкі.

– Добра, выбірай, – кажу, – дзень. Але ж як ён занадта марудна выбіраў, то потым сама яму выбрала – на Дзяды. Сказала, пойдзеш, маўляў, да бацькі свайго (ён каталік, 10 гадоў назад памёр, і праз гэтую смерць і я да касцёла дайшла).

Пайшоў. Лаяўся, але пайшоў. Хацеў уцячы праз паўгадзінкі, а там жа на пачатку літанія за ўсіх памерлых – вось і ўсе паўгадзіны! Але ж я яго паціхеньку ўгаворвала-ўгаворвала дый угаварыла – як ужо пайшла да Камуніі, то дала яму «адмашку»:

– Можаш ісці! Можа, калі зацягну яшчэ раз… Рэшта грыбоў яшчэ не скарыстаная.

Ну, то вось, не адразу я зразумела, што гэтае здарэнне – плён расіцкае малітвы за мужа майго, бо я заўсёды пакідаю ў Росіцы такую інтэнцыю – аб навяртанні маёй лепшай паловы. Толькі пазней, па дарозе ў саму Росіцу, у лютым і сцяміла, як прыйшлося распавесці пра гэта ў аўтобусе, бо расказвала ж раней пра гэтыя рыжыкі нашым маладзенькім дзяўчаткам. А яны так упадабалі гэту гісторыйку, што запрасілі распавесці на біс… :)

*Ірэна Рубінава, Мінск*

# Вынікі конкурсу "Жыві Добрай Весткай!"




**Дарагія сябры!**

**На сайце нашай газеты catholicnews.by прайшоў конкурс «Жыві Добрай Весткай!» Паводле галасавання на сайце мы вызначылі пераможцаў. Месцы размеркаваныя наступным чынам.**

**Намінацыя «Матыватары»:**

1-е месца – **Вікторыя Раманчук** (Удзела);

2-е месца – **Карына Канапелька** (Глыбокае);

3-е месца – **Яўгенія Тропачава** (Нарач);

4-е месца – **Вольга Дварэцкая** (в. Іказнь Браслаўскага раёна).

**Намінацыя «Тэксты»:**

1-е месца – «Часам трэба пабыць адной» (**с. Марына Брылёнак**, Варапаева);

2-е месца – «Ліст да Бога» (**Святлана Пальчэх**, Мёры);

3-е месца – «Урок з дзяцінства» (**Эла Калугіна**, Глыбокае).

**Прыз ад рэдакцыі** – «Рыжыкі, альбо Як мой муж у касцёл хадзіў» (**Ірэна Рубінава**, Мінск).

Дзякуем усім за ўдзел у конкурсе! Віншуем пераможцаў і жадаем надалей творчага натхнення!

*Рэдакцыя «Каталіцкага Весніка»*






## Увага! Падпіска!

**Дарагія сябры!**

Заахвочваем вас падпісацца на "Каталіцкі Веснік"! Зрабіць гэ-та можна ў любым аддзяленні Белпошты.

Вы можаце падпі-сацца самі, а таксама падпісаць свайго сябра.

Падарыце Добрую Вестку родным і блізкім!

**Кошт "Весніка" на 1 месяц – 2550 руб.**

**Наш падпісны індэкс – 63783.**

**Заставайцеся з намі!**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Адказы на віктарыну са старонкі 7

| | |
|---|---|
| 1. Г | 7. Б |
| 2. Б | 8. В |
| 3. А | 9. А |
| 4. Б | 10. В |
| 5. В | 11. Б |
| 6. Б | 12. В |

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Таццяна Смоткіна
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2428

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3100 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 26.03.2013 г. у 08.59

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ